

# Свабода

www.svaboda.by
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

№61 (288) 12 ліпеня 2002 пятніца кошт свабодны падпісны індэкс 63478




# Берлінская вымова Лукашэнку

*Рэзалюцыю пра Беларусь падрыхтаваў прадстаўнік ЗША ў АБСЕ Стэні Гоер. Пасля дыскусіяў у Палітычным камітэце яе тэкст быў ухвалены бальшынёй удзельнікаў паседжання, і на галасаванне быў вынесены варыянт Гоера з дадаткам латышскай дэпутаткі Хелены Дэмакавай: заклікаць беларускія ўлады выдаць візы супрацоўнікам Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Мінску.*



Супраць рэзалюцыі пра Беларусь прагаласавалі 11 дэлегатаў – з Расіі, Арменіі і з Югаславіі. Устрымаліся 14 чалавек. Усяго ў галасаванні павінны былі браць удзел 300 дэлегатаў.

Ніякіх дэбатаў, пытанняў не было. Выступіў дэпутат Дзярждумы Расіі Іванчанка, які падкрэсліў чарговую катэгарычную нязгоду Расіі, як ён сказаў, з дваістымі стандартамі ў дачыненні да Беларусі. Іванчанка адзначыў, што нельга абмяркоўваць беларускае пытанне без удзелу дэлегацыі Беларусі. Ён меў на ўвазе дэлегацыю так званага Нацыянальнага сходу. Дэлегацыі афіцыйнага Мінску ў залі не было.

На сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ ўсе зацікаўленыя змаглі азнаёміцца з законапраектам «Акт аб дэмакратыі ў Беларусі», што ўнесены на разгляд у Кангрэс ЗША. Новаабраны прэзідэнт Парламенцкай асамблеі АБСЕ Брус Джордж сказаў, што ўжо азнаёміўся з «Актам аб дэмакратыі ў Беларусі».

Вось як ацэньвае вынікі сесіі ПА АБСЕ старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька: «Выкарыстоўваючы футбольную тэрміналогію, 0:2 не на карысць беларускага рэжыму.

Працяг тэмы на стар. 3

# Кошт падручнікаў узрастае ўдвая

*Прычым з беларускамоўных дзяцей дзяржава возьме болей грошай, чым з рускамоўных*

У новым навучальным годзе ў Беларусі будзе павялічана плата за карыстанне школьнымі падручнікамі. Згодна з пастановай ураду, яна складзе 50 працэнтаў ад агульнага кошту камплекту падручнікаў для вучняў падрыхтоўчых і 1–11(12) класаў, у той час як раней бацькі аплачвалі толькі 25 працэнтаў ад кошту кніг.

Як паведаміла БелаПАНу начальнік галоўнага ўпраўлення сацыяльна-эканамічнага развіцця Міністэрства адукацыі Беларусі Лідзія Субоцкая, павышэнне платы за карыстанне падручнікамі было выкліканае фінансавымі цяжкасцямі, звязанымі з іх выданнем. Пры гэтым Л. Субоцкая зазначыла, што, згодна з Законам аб адукацыі, грамадзяне Беларусі павінны быць забяспечаныя мінімальнымі сацыяльнымі гарантыямі, у прыватнасці, на атрыманне адукацыі за кошт дзяржавы, астатнія ж адукацыйныя паслугі дзяржустаноў адукацыі могуць быць платнымі. Поўная або частковая аплата падручнікаў залежыць ад агульнай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне.

У новым навучальным годзе самым дарагім будзе камплект падручнікаў для дзевятага класа беларускамоўных школ – 19 тысяч 752 рублі. Бацькам неабходна будзе аплаціць палову з гэтай сумы – 9 тысяч 876 рублёў. За камплект падручнікаў для дзевятага класа рускамоўных школ яны заплацяць 6 тысяч 900 рублёў. Камплект падручнікаў для вучняў чацвёртага класа беларускамоўных школ абыдзецца бацькам у 9 тысяч 658 рублёў пры агульным кошце ў 19 тысяч 316 рублёў. А для чацвёртага класа школ з рускай мовай навучання кошт камплекта падручнікаў складзе 18 018 рублёў, з якіх бацькам давядзецца плаціць адпаведна 9 009 рублёў. Як зазначыла Л. Субоцкая, розніца ў аплаце руска- і беларускамоўных падручнікаў тлумачыцца тым, што апошнія выдаюцца толькі ў Беларусі, а падручнікі на рускай мове закупляюцца і ў Расіі.

Карыстацца падручнікамі бясплатна змогуць дзеці-сіроты, якія засталіся без бацькоўскай апекі, дзеці-інваліды, а таксама дзеці, у чыіх сем'ях адзін ці абодва бацькі – інваліды. На 50 працэнтаў будзе зніжаная плата за карыстанне падручнікамі шматдзетным сем'ям (трое і больш дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту).

Пры пераходзе вучня ў іншую школу ён вяртае падручнікі ў школьную бібліятэку і атрымлівае даведку аб аплаце карыстання падручнікамі ў гэтым навучальным годзе.

**Вольга АСІПЕНКА**

**ГРАМАДЗЯНСТВА**

## Разлік на прывазных спартоўцаў

Яшчэ адзін вядомы біятланіст можа атрымаць бліжэйшым часам беларускае грамадзянства. Гэта 36-гадовы расіянін з Петразаводску Уладзімір Драчоў, неаднаразовы пераможца чэмпіянатаў свету і ўладальнік Кубка свету. У. Драчоў ужо трэніруецца ў складзе беларускай нацыянальнай каманды. Як паведамлялася раней, бліжэйшым часам павінна атрымаць беларускае грамадзянства 29-гадовая ўкраінская біятланістка Алена Зубрылава, уладальніца чатырох залатых медалёў сусветных чэмпіянатаў. Як і У. Драчоў, яна ўжо трэніруецца ў Беларусі.

**ЗДАРЭННІ**

## Смяротны «сюрпрыз»

У мінскім парку імя Горкага на атракцыёне «Сюрпрыз» загінуў работнік парку, мінчанін 1959 году нараджэння. Падчас руху атракцыёна ён паспрабаваў змяніць месца, аднак упаў і ад атрыманых траўмаў памёр на месцы. За 15 гадоў працы атракцыёна «Сюрпрыз» ні разу не было ніякіх здарэнняў. Трагедыя адбылася ўжо пасля таго, як атракцыён быў зачынены для наведнікаў. Работнік парку вырашыў пакатацца з дзяўчатамі. Калі здарылася трагедыя, дзяўчаты ўцяклі.

**ПАКАРАННІ**

## Прымусовы адпачынак прафесара Хадыкі



**Як паведамлялася, прафесар, доктар навук Юры Хадыка, які працуе ў Інстытуце фізікі Акадэміі навук, быў затрыманы міліцыяй каля свайго дому і дастаўлены ў спецпрыёмнік-размеркавальнік.**

Цяпер у яго чарговы адпачынак, і дзесяць сутак з яго прафесар праводзіць у камеры. Летась Юры Хадыка амаль год правёў у шпіталі. Ён перанёс цяжкую аперацыю. Сваякі баяцца, што арышт адаб'ецца на ягоным здароўі, што, улічваючы спякоту і ўмовы ўтрымання людзей у месцах зняволення, ніколі не выключана. Зразумела, што міліцыя выконвае рашэнне суду, але вось на чый загад суд ганьбуе сябе несправядлівымі пакараннямі заслужаным людзям?

**СКАНДАЛ**

## «Славянскі базар» без Пугачовай

Расійскія спевакі Ала Пугачова і Філіп Кіркораў не прыедуць на фестываль «Славянскі базар». Па чутках, прычынаў дзве. Першая: арганізатары фестывалю не запрасілі іх, бо тыя хочуць надта вялікія ганарары. Другая: у дырэкцыі «Славянскага базару» лічаць, што віцебскай публіцы варта адпачыць ад Пугачовай і Кіркорава.

## Грунвальд загадалі не помніць

10 ліпеня Гродзенскі гарвыканкам даў адмоўны адказ наконт свята з нагоды ўгодкаў Грунвальдскай бітвы. Саюз палякаў, таварыства літоўскай культуры «Тэвіне» і БНФ «Адраджэнне» дамовіліся супольна адзначыць гэтую дату, якая прыпадае на 15 ліпеня. Яны хацелі арганізаваць святочны канцэрт каля драўлянай скульптуры вялікага князя Вітаўта. Каб адмовіць ім, у гарвыканкаме скарысталі фармальную прычыну – заяўка на правядзенне мерапрыемства была пададзена менш чым за 15 дзён.

**КУРС НАЯЎНАГА ДАЛЯРА НА «ЧОРНЫМ РЫНКУ»**

**1825**

ЭКАНОМІКА

# Шумок апраўданняў пасля грому абяцанняў

**Пачатак жніва не абяцае ўраджаю нават леташняга ўзроўню.**

Два ўраганы ў ліпені моцна патрапалі гаспадарку Брэстчыны. Рахункі, што прад'яўлены мясцовай уладай страхавым кампаніям і Міністэрству па надзвычайных сітуацыях, перавышаюць адзін мільярд рублёў. У чалабітнай да Саўміна памер дапамогі ацэнены ў адзінаццацізначную суму. Адначасова з гораду над Бугам каторы ўжо раз абвесцілі, што, маўляў, з-за нанесеных стратаў рэгіён не намалоціць мільёна тонаў збожжа ў бункернай вазе. Чаканы дэфіцыт харчовага і фуражнага зерня складзе прыкладна 600 000 тонаў.

Не менш праблематычная сітуацыя на Міншчыне. Відавочна, што акрамя замаразкаў і спёкі на дрэнны стан збожжа паўплывалі абмежаваныя дозы мінеральных тукаў і недастатковая абарона раслінаў ад шкоднікаў, хвароб і пустазелля. Усю зіму губернатар Мікалай Дамашкевіч заклікаў рыхтавацца да сяўбы на павялічаных плошчах. А як пачалася пасяўная, працоўны дзень столаначальнікаў быў падоўжаны да 15 гадзінаў, усіх іх на два тыдні адлучылі ад сем'яў у гарадах. Але хоць бы атрымалі не менш, чым у няўдалы леташні сезон, інакш за людзей будзе крыўдна – доўг па заробках складае больш як 5 мільярдаў рублёў. Гэтымі днямі ганцы з усіх паверхаў «вертыкалі» разляцеліся спакушаць камбайнераў прынадаю мільённых прэмій. Новая фішка, прыдуманая для працоўнага спаборніцтва, па сутнасці някепская. А менавіта, калі экіпаж адпрацоўвае 20 дзён без аварый і прастояў, то атрымлівае грашовы талон на 500 000 рублёў за надзейную падрыхтоўку ўборачнай машыны. Яшчэ адзін талон на паўмільёна рублёў можа быць выпісаны паводле якаснай уборкі. Але адкуль зваляцца грошы малавядома. І ўсё ж такі ў абласцях, дзе палі з надрэннай прыроднай урадлівасцю, яшчэ застаюцца магчымасці для манеўру і маніпуляцый. Затое на Віцебшчыне на засуху ўжо спісана 200 000 тонаў збожжа і 250 000 цэнтнераў кармавых адзінак. Нулявы запас вільгаці ў Светлагорскім, Рэчыцкім, Жыткавіцкім, Буда-Кашалёўскім раёне на Гомельшчыне абяцае не менш значныя страты. Увогуле, нават асцярожныя чыноўнікі з Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання загадзя прызнаюць памылковым прэзідэнцкі прагноз на атрыманне ў 2002 годзе 7,5 мільёнаў тонаў збожжа.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

## Заяўка на мітынг па дыскрымінацыі

Жыхары райцэнтру Маларыта на Брэстчыне звярнуліся з калектыўнай скаргай на дзеянні дырэктара КУМП Маларыцкага ЖКГ да старшыні Брэсцкага аблвыканкаму Васіля Далгалёва. Хаця насельніцтва рэгулярна плаціць за гарачую ваду, але з 15 траўня яна падавалася тры разы на тыдзень; з 1 ліпеня – 2 разы; зараз – зусім адключаная. Мясцовы бюджэт не мае дастаткова сродкаў на газ для падагрэву вады, бо за камунальныя паслугі не разлічваюцца дзяржустановы, арганізацыі і прадпрыемствы. «Чаму мы, жыхары Маларыты, зазнаём дыскрымінацыю ў той час, як насельніцтва іншых гарадоў вобласці забяспечваецца гарачай вадой штодзённа?» – стаіць пытанне ў скарзе. Адначасова просьбіты інфармуюць аблвыканкам, што імі пададзена заява аб правядзенні мітынгу па праблеме гарачай вады, і запрашаюць старшыню Брэсцкага аблвыканкаму сп. Далгалёва на гэтую акцыю.

**Уладзімір ВЯЛІЧКІН**

АКТУАЛЬНЫ ТЭЛЕФОН НС 2-100-253

# Дактары без заробкаў і адпускных

З Гомеля ў нашу рэдакцыю, як у апошнюю інстанцыю, дазванілася маці дваіх дзяцей, доктар з 22-гадовым вопытам працы, загадчыца аддзялення Галіна М. Жанчына даведзена да адчаю з-за матэрыяльных цяжкасцей у сям'і, выкліканых затрымкаю зарплаты за чэрвень, авансу ў ліпені і адпускных. У горадзе, як у палоне, сядзяць людзі з падарваным ад чарнобыльскай радыяцыі здароўем. У бухгалтэрыі Гомельскага гарадскога аддзелу аховы здароўя (гал. бухгалтар Алена Чарнышэў) давялося пачуць, што чытачка НАШАЙ СВАБОДЫ апынулася ў такім жа бядотным становішчы, як і медперсанал усіх 17 медустановаў абласнога цэнтру. І хоць працяглыя затрымкі заробку здараліся і раней, але зараз хваля абурэнняў дасягнула свайго піку. 1, 8 і 15 ліпеня – даты сыходу ў адпачынак соцень людзей, і ніхто з іх не можа атрымаць грашовую дапамогу. У Гомелі пусты гарадскі бюджэт.

Будзем спадзявацца, што ў краіне, дзе вярхушка ўлады афішуе дабрабыт і дэманструе быццам бы штабелі залатога запасу, знойдуцца ўсё ж сродкі, каб аддаць зароблене працаўнікам, адказным за здароўе 500-тысячнага гораду.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

САЛІДАРНАСЦЬ

# Альтэрнатыва развалу – паслугі прыватнікаў

З-за немагчымасці выплаціць крэдыторскую запазычанасць у 150 мільёнаў рублёў юрыдычна ліквідаваны камбінат бытавога абслугоўвання насельніцтва Маладзечанскага раёну. Штат персаналу расфармаваны. У Радашковічах закрыты Дом быту, воўначасальня, трыкатажны і два галантарэйныя цэхі.

Зараз найбольш ініцыятыўныя працаўнікі галіны і прыватныя прадпрымальнікі прапанавалі, як лепш выкарыстаць матэрыяльную базу стратнага прадпрыемства. Прыкладам, паслугі цырульняў ва ўсім раёне ўжо 100-працэнтна адышлі да індывідуальных адмыслоўцаў. Шэсць прыватнікаў атрымалі дазвол на арэнду памяшканняў былых сельскіх комплексна-прыёмных пунктаў.

На пытанне, чаму заўчасна амярцвела прадпрымальніцкая жылка ў дзяржструктуры, кіраўніца эканамічнага аддзелу Маладзечанскага райвыканкаму Наталля Нікіценка кажа, што магчымыя інвестары баяліся мець справу з прадпрыемствам-банкрутам. Прыкладам, зношанасць абсталявання ў часальным цэху перавышае 90%, з-за чаго здараліся бясконцыя паломкі, не перапыняўся паток скаргаў ад заказчыкаў. Сродкі для тэхнічнага перааснашчэння сюды можа накіраваць толькі новы гаспадар, вольны ад старых даўгоў.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**



СПАДЧЫНА

# Экспедыцыя з закрытага ліцэю

Навучэнцы гуманітарных ліцэйскіх класаў са Светлагорску і супрацоўнікі Інстытуту гісторыі НАН Беларусі распачалі маладзевую археалагічную экспедыцыю. Цягам двух тыдняў яны правядуць раскопкі старажытнага паселішча блізу вёскі Адрубы Жлобінскага раёну. Гэта працяг традыцыі беларускамоўнага ліцэю, які гарадскія ўлады зачынілі ў мінулым годзе. Нягледзячы на тое, што навучэнцаў перавялі ў СШ № 1, мясцовыя выкладчыкі і сталічныя навукоўцы падтрымалі намер ранейшага складу экспедыцыі працягваць археалагічны пошук як навучальна-выхаваўчую працу. У групе – 21 чалавек. Жывуць яны ў намётах, а ежу гатуюць – на вогнішчы. Праца штодня займае 4 гадзіны, астатні час – адпачынак. Гарадзішча, дзе распачаты раскопкі, адносіцца да ранняга жалезнага веку. Навукоўцы выказваюць меркаванне, што паселішча належала нашым праславянскім продкам.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ**

БЕЛАРУСКАЯ СТЫХІЯ



**Гродзенская вобласць. Хлопчыкі з Жырмунаў даследуюць наступствы ўрагану, які заваліў векавымі дрэвамі шашу каля іхняй вёскі**

# Выстава з міліцэйскім патрулём

Ад пачатку ліпеня да сярэдзіны верасня ў мінскім скверы на набярэжнай Свіслачы блізу помніка Пушкіну будзе працаваць выстава кветак. Батанікам і проста тым, каму падабаюцца прыгожыя расліны, будуць прадстаўленыя жывыя экспанаты. Як паведамілі ў Мінгарвыканкаме, гэта будуць кветкі, «высаджаныя на клумбы, бардзюры, горкі» прадпрыемствамі, што адмыслова займаюцца ландшафтнай архітэктурай і азеляненнем. Між тым арганізатары кветкавай выставы адразу папярэджваюць патэнцыйных наведнікаў-злодзеяў, што скрасці ўпадабаныя экспанаты сабе дадому альбо на продаж не ўдасца, бо выставачная тэрыторыя будзе патруляваца міліцыяй.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Наша тэлемова

*Паводле рашэння Нацыянальнай рады па пытаннях тэлебачання і радыёвяшчання, на працягу аднаго году тэлевізійныя каналы і радыёстанцыі Украіны мусяць перайсці на вядзенне праграмаў уласнай вытворчасці на дзяржаўнай мове, то бок па-ўкраінску.*

У нас беларускамоўнасць тэлевізіі і радыё немагчымая хоць бы з прычыны ўзаконенага двухмоўя, якое насамрэч уяўляе сабой дамінаванне ў тэле- і радыёэфіры рускай мовы. На нашых *FM*-станцыях беларускай мовы не чуваць і чвэрці працэнту вяшчальнага часу. І гэта выключна беларускамоўныя песні; дыджэі родную мову ігнаруюць цалкам. Ва Ўкраіне мінулымі гадамі існавалі абмежаванні на эфір не па-ўкраінску. Гэта значыць, нейкі фіксаваны працэнт эфірнага часу мусіў быць украінскамоўным. Такія самыя захады робіць своеасаблівая моўная паліцыя, напрыклад, у Францыі. У Беларусі, улічваючы білінгвізм і дэбеларусізацыю грамадства, на першым этапе можна было б абавязаць усе радыёстанцыі не менш за 30% эфірнага часу вяшчаць па-беларуску.

Тое самае мусіць тычыцца і тэлеэфіру. Насуперак сваёй назве, па-руску пачало выходзіць Агульнанацыянальнае тэлебачанне. Праўда, кіраўнікі АНТ абяцаюць, што беларуская мова на гэтым канале такі з'явіцца. Сталічнае тэлебачанне таксама выходзіць спрэс па-руску. Апрача праграмы «Відзьма-нявідзьма», скасаванай нядаўна з эфіру БТ.

Дарэчы, што да беларускамоўя, то якраз Беларускае тэлебачанне і асабліва Беларускае радыё трымаюцца яго болей за ўсіх. Кіраўнік БТ Ягор Рыбакоў, які вучыўся на настаўніка беларускай мовы і літаратуры, часта публічна даводзіць, што ён увесь час стараецца павялічваць час гучання беларускай мовы на канале. Але беларускай мовы на БТ усё роўна меней, чымсьці рускай. Сітуацыя зменіцца, калі па-беларуску будуць весціся аналітычныя праграмы і дублявацца мастацкія фільмы.

Што да якасці беларускай мовы на БТ, то гаварыць пра гэта можна толькі з сумам. Паглядзіце вечаровыя навіны, і вы знойдзеце там да паўсотні моўных памылак і недарэчнасцяў. А тое, як каментавалі на БТ матчы чэмпіянату свету па футболе, застанецца ў памяці гледачоў як прыклад звычайнай непісьменнасці! З вуснаў спартовага каментатара Паўла Булацкага, якога ў рэшце рэшт справядліва адхілілі ад каментатарства, наогул рэдкі сказ злятаў гладка!

Дзе-небудзь у сетцы перадач БТ варта знайсці месцейка для сталай праграмы «Работа над памылкамі» з удзелам ягоных супрацоўнікаў. Хоць дыктарам і вядучым Беларускага тэлебачання адмыслова наладжаныя курсы па правільным маўленні не дужа дапамагаюць. Дый ходзяць на іх адзінкі. Гэтаксама адзінкі на Макаёнка, 9 размаўляюць па-беларуску. Большасць пераходзіць на беларускую мову толькі непасрэдна ў студыях.

Тэлевізійная мова, як і тэатральная, павінна быць узорнай. Але ў Беларусі з тэлевізару можна толькі папсаваць лінгвістычны густ ды набрацца нядобрых эмоцыяў.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# *Канферэнцыя беларусаў Балтыі*

13–14 ліпеня ў Вільнюсе пройдзе III канферэнцыя беларусаў Балтыі. Чакаецца, што ўдзел у ёй возьмуць каля 70 дэлегатаў з Літвы, Латвіі, Эстоніі, Расіі, Польшчы і Беларусі, а таксама госці, запрошаныя з ЗША, Канады, Вялікабрытаніі, Францыі і Бельгіі. Канферэнцыя пройдзе ў будынку былой Беларускай гімназіі, дзе зараз месціцца Тэхналагічны ўніверсітэт. З гэтай гімназіяй звязаны імёны многіх дзеячаў беларускага адраджэння.

Сёння ў гэтай краіне жывуць каля 55 тысяч беларусаў, у суседняй Латвіі – каля 100 тысяч. Дэлегаты з Літвы маюць намер паставіць на канферэнцыі пытанне аб аднаўленні ў Вільнюсе Беларускага музея імя Івана Луцкевіча. Ён адкрыўся ў 1921 годзе і быў закрыты пасля Другой сусветнай вайны.

З Беларусі для ўдзелу ў працы форуму запрошаны грамадскія, палітычныя дзеячы, вучоныя.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Рэзалюцыя ПА АБСЕ пра Беларусь

1. **Выказваючы заклапочанасць** развіццём дэмакратыі, павагі да правоў чалавека і вяршэнства закону ў Беларусі;

2. **улічваючы** значныя намаганні, якія з 1998 году робіцца рабочай групай па Беларусі для спрыяння развіццю дэмакратыі ў Беларусі, а таксама вялікую ўвагу, якая аддаецца на высокім узроўні падзеям у Беларусі;

3. **адзначаючы** жорсткія абмежаванні, накладзеныя рэжымам на свабоду слова, прэсы, правядзення мірных сходаў і на свабоду асацыяцыяў;

4. **турбуючыся** пра стан грамадзянскіх правоў, несупынная цкаванне незалежных СМІ, неналежнае абыходжанне з прадстаўнікамі апазіцыі [і затрыманымі], а таксама з прадстаўнікамі рэлігійных меншасцяў,

5. **згадваючы** зробленыя АБСЕ высновы аб тым, што парламенцкія выбары, якія адбыліся ў кастрычніку 2000 году, і прэзідэнцкія выбары, праведзеныя ў верасні 2001 году, не адпавядалі стандартам АБСЕ што да дэмакратычных выбараў;

6. **узрушаная** тым, што ўрад Беларусі ігнараваў рэкамендацыі АБСЕ пра тое, якія ўмовы павінны быць створаныя для таго, каб забяспечыць правядзенне свабодных і справядлівых выбараў, празрыстасць выбарчага працэсу, у тым ліку рэкамендацыі Бюро дэмакратычных інстытутаў і правоў чалавека АБСЕ пра ўнясенне зменаў у выбарчы закон, спыненне парушэнняў правоў чалавека, ліквідацыю атмасферы страху, забеспячэнне функцыянавання незалежных СМІ і ўзмацненне функцый парламенту;

7. **занепакоеная** цвярджаннямі пра тое, што высокапастаўленыя беларускія афіцыйныя асобы, праўдападобна, былі замяшаныя ў здзяйсненне забойстваў вядомых дзеячаў апазіцыі;

8. **заклапочаная** цвярджаннямі пра тое, што Беларусь пастаўляе смертаносную ваенную тэхніку тэрарыстам і краінам, якія даюць прытулак тэрарыстам;

9. **перакананая** ў тым, што дзяржавы-ўдзельніцы АБСЕ зацікаўленыя ў існаванні незалежнай суверэннай Беларусі і яе інтэграцыі ў дэмакратычную Еўропу;

10. **падкрэсліваючы** жыццёва неабходную ролю, якую ў заахвочванні дэмакратычнага развіцця, павагі да правоў чалавека і вяршэнства закону ў Беларусі адыгрывае Кансультацыйна-назіральная група (КНГ) АБСЕ, падкрэсліваючы жыццёва неабходную ролю, якую ў заахвочванні дэмакратычнага развіцця, павагі да правоў чалавека і вяршэнства закону ў Беларусі адыгрывае Кансультацыйна-назіральная група АБСЕ;

Парламенцкая асамблея АБСЕ

11. **заклікае** ўрад Беларусі выконваць свае абавязанні ў рамках АБСЕ;

12. **настойліва заклікае** беларускія ўлады спыніць пераслед незалежных СМІ, НДА, актывістаў праваабарончага руху, спыніць палітычна матываваныя арышты і затрыманні і пачаць дасканалае і празрыстае расследаванне выпадкаў смерці ці зніknення лідэраў апазіцыі;

13. **настойліва заклікае** ўрад Беларусі спыніць сваю самаізаляцыю і правесці свабодныя, справядлівыя парламенцкія і прэзідэнцкія выбары такім чынам, каб яны адпавядалі трывалым стандартам АБСЕ;

14. **настойліва і рашуча заклікае** ўрад Беларусі супрацоўнічаць з АБСЕ і яе інстытутамі, улучна з КНГ, для дасягнення адпаведнасці стандартам АБСЕ.

# Берлінская вымова Лукашэнку

*Заканчэнне, пачатак на стар. 1*

Па-першае, не ўдалося легітымізаваць Палату прадстаўнікоў, а па-другое, прынята вельмі жорсткая рэзалюцыя, шэраг пунктаў якой упершыню знайшоў увасабленне ў дакументах такога ўзроўню. Гэта датычыць продажу зброі і магчымай датычнасці высокапастаўленых асобаў да магчымых забойстваў прадстаўнікоў апазіцыі».

Мы заўважаем, што Еўропа прыняла фактычна амерыканскі варыянт стаўлення да беларускага рэжыму на гэтым этапе, хоць апошнія 9 месяцаў яны былі схільныя да таго, каб крыху патураць беларускаму рэжыму».

Новаабраны прэзідэнт Парламенцкай асамблеі АБСЕ Брус Джордж адказаў на пытанне наконт вырашэння праблемы КНГ АБСЕ ў Мінску: «Не думаю, што задача Парламенцкай асамблеі – вырашаць гэтае пытанне. Ёсць шмат інстытутаў і шмат двухбаковых перамоваў, мэта якіх – дабіцца ад беларускага ўраду рашэнняў, якія больш адпавядаюць прынцыпам АБСЕ. Урад Беларусі ўдзельнічае ў працы АБСЕ. Але што да рашэння, ці даць Нацыянальнаму сходу месца ў Парламенцкай асамблеі, яно адкладзена да лютага. Нам вельмі дапамагло б вырашыць гэтае пытанне, калі б беларускі ўрад зрабіў тыя крокі, якія б нас падштурхнулі даць месца дэпутатам з Беларусі ў Парламенцкай асамблеі. Што вельмі дапамагло б, гэта калі б беларускі ўрад змяніў сваё рашэнне адносна КНГ у Мінску. Гэта разглядалася б як пазітыўны крок».

Ута Цапф, дэпутат Бундэстагу Нямеччыны, старшыня адмысловай групы Парламенцкай асамблеі АБСЕ ў справах Беларусі, галасавала за рэзалюцыю пра Беларусь: «Я прагаласавала за рэзалюцыю, бо я лічу, што тэкст рэзалюцыі дастаткова ясна акрэслівае сітуацыю ў Беларусі, якую мы не прымаем, і я думаю, што такая рэзалюцыя магла б паспрыяць змяненню гэтай сітуацыі. Безумоўна, гэта жорсткая крытыка, але, з другога боку, я была за тое, каб дэлегацыя Нацыянальнага сходу атрымала месца ў Парламенцкай асамблеі, з дзвюх прычынаў.

Адна прычына грунтуецца на нашых уласных правілах. Я не бачу, каб у нашых правілах была магчымасць проста адмовіць Нацыянальнаму сходу ў гэтым. У 1997 годзе рашэнне не даваць месца Нацыянальнаму сходу было правільнае, бо гэта быў прызначаны, а не абраны парламент. Цяперашні Нацыянальны сход быў абраны, хоць выбары і не адпавядалі тым стандартам, якіх мы патрабавалі. Але калі ў нас такія правілы, то не трэба глядзець, як праводзіліся выбары. Гэта адно. А яшчэ, я асабіста вельмі сур'ёзна стаўлюся да таго, каб прытрымлівацца правілаў, і кажу іншым, што вяршэнства закону – самае важнае. А па-другое, у АБСЕ існуе доўгая традыцыя дыялогу».

Пітэр Асуцкі, кіраўнік дэлегацыі Славаччыны, таксама патлумачыў, чаму ён галасаваў за рэзалюцыю пра Беларусь: «Відаць, таму, што дзве трацiны свайго жыцця я пражыў у таталітарным рэжыме, і я жадаю, каб усе падобныя народы, як колішнія чэхі і славакі, маглі жыць у свабодзе. У нас умовы для гэтага з'явіліся, і хацелася б, каб яны былі і ў беларусаў. Таму я часам адчуваю сябе ахоўнікам дэмакратыі. Я бачыў, што дэмакратычна арыентаваныя парламентары з Заходняй Еўропы, якія ніколі не жылі пад таталітарным рэжымам, не маюць такога выразнага адчування, што такое недэмакратычнасць. А пазней, калі мы атрымалі дэмакратыю, калі да ўлады прыйшоў Уладзімір Мэч'яр, сітуацыя не была такая дрэнная, як пры Лукашэнку. Тым не менш, праз Мэч'яра мы страцілі дарогу ў *NATO* яшчэ на 5–6 гадоў, нашую дарогу да еўрапейскіх структураў. Таму, калі я ведаю пра нейкі дрэнны, таталітарны рэжым недзе ў Еўропе, мая задача – зрабіць нешта, і я раблю гэта з першых дзён працы ў ПА. Беларусь – першы пункт у маім графіку, кожны год, на кожнай сесіі.

Я чуў заявы гэтак званай «афіцыйнай» дэлегацыі, якія былі зробленыя зусім пасталінску, гэта значыць – абвяржэнне ўсяго, што можа быць дрэнна ў Беларусі. Абвяржэнне ўсіх праблемаў, пераследу, зніволенняў, забойстваў, зніkненняў. Яны ад усяго адмаўляліся. То бок «усё о'кей». І яны ўжывалі ведамую камуністычную тэрміналогію – «умяшанне». Калі я чую слова «умяшанне», мне ясна, што нешта яны хочуць схаваць. А ў сённяшняй Еўропе нічога нямажна схаваць».

**Паводле Радыё «Свабода»**

**АКТУАЛЬНАЯ ЦЫТАТА**

*«Прэзідэнт падчас яго (гімну) выканання нават спрабаваў падпяваць. Аднак відаць было, што вершы ён яшчэ не паспеў вывучыць».*

**Независимая газета**



ЭНЕРГЕТЫКА

## Дамо краіне вугалю!

**Каб пранікнуць на рынак саюзніка, магілёўцы капаюць шахту.**

У Бялоўскім раёне Кузбаса павінен з'явіцца вугальны разрэз «Беларускі». Сумеснае прадпрыемства па яго распрацоўцы заснавана на 50-працэнтных долях прыватнага капіталу з Расіі і беларускага, пакуль невядома якога паходжання, хутчэй – дзяржаўнага. Тлумачэнні новай эканамічнай спайкі пасля шэрагу праваленых саюзных праграмаў даваў на гэтым тыдні старшыня Магілёўскага аблвыканкаму сп. Батура, які наведаў энергетычны цэнтр кемераўскага губернатара Тулеева. Кіраўнік магілёўскай «вертыкалі» мусіў наўпрост заявіць, што пранікнуць на ўсходні рынак без расійскага павадыра зараз практычна немагчыма, таму, маўляў, не даводзіцца грэбаваць нават падземнымі шляхамі.

З агучаных эканамічных выкладак можна зразумець, што Магілёў прапануе свайму партнёру прадукцыю заводаў «Трансмаш» і імя Кірава, ВА «БелАЗ», а таксама крычаўскі цэмент у вялікіх аб'ёмах. Кошт прамысловага бартэру не называецца, а таму напрошваюцца падазрэнні, што ён можа атрымацца не раўнацэнны. Ці не з гэтай прычыны Барыс Батура вельмі старанна выгаворваў перад тэлекамерай лічбы камерцыйных прапаноў, якія вылучае расійскі бок? У прыватнасці, праектная магутнасць новага разрэзу ацэньваецца выдачай на паверхню 500 000 тонаў вугалю ў год. Памер эксплуатацыйных затратаў не перавышае нібыта 170 мільёнаў рублёў, хоць па статыстыцы будаўніцтва шахты ў Кузбасе абыходзіцца ў 3–4 разы даражэй. Тут жа быццам бы дарма перадаюць пад'язны чыгуначны шлях, электрычную падстанцыю, аўтадарогі. Планаваны сабекошт здабычы вугалю – прыкладна 150 расійскіх рублёў за адну тону, што таксама падобна да казкі, бо сярэдні кошт вугалю нават на ўнутраным рынку Расіі ўдвая большы.

Ясна, што магілёўскі кіраўнік ездзіў у Кузбас выконваць палітычную волю Аляксандра Лукашэнкі. Гарачы Аман Тулееў напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі не палічыўся са сваімі заблытанымі праблемамі крымінальнага характару і прыкацiў паўплываць на беларускі электарат з бальшавіцкім мінулым. Зараз, магчыма, прыйшоў час расплаціцца за паслугі. Урэшце, тая ж Магілёўская вобласць мае патрэбу завезці на зіму не менш як 80 тысячаў тонаў вугалю. Чаму б яму не быць з Кемерава? Хоць справядлівасць патрабуе зазначыць, што раней усе вадагрэйкі ў блізкім да Украіны Магілёве спажывалі антрацыт з шахтаў Данбасу.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

# Піўны прэцэдэнт

## *Прыватнаму бровару «Аліварыя» пагражае нацыяналізацыя*

***Ужо некалькі тыдняў у бізнесовых колах абмяркоўваюць той факт, што беларускі ўрад усур'ёз намерваецца правесці змену ўласніка на мінскім піўзаводзе «Аліварыя».***

На адной з урадавых нарадаў Міністэрству эканомікі і канцэрну «Белхарчпрам» спушчаныя ўказанні падрыхтаваць адмысловы праект пастановы. Падставы для нацыяналізацыі – нібыта слабыя вытворчыя паказнікі на прадпрыемстве і несвоечасовыя выплаты заробку. Але ні першае, ні другое не мае месца.




Гэта ініцыятыва ўраду спараджае здзіўленне і проста безліч пытанняў, а калі яна ажыццявіцца, то пацягне за сабой шэраг негатыўных наступстваў для беларускай эканомікі. Не можа не непакоіць тое, што прыватная ўласнасць у нашай краіне нічога не значыць. Калі «Аліварыю», дзе 60% акцыяў належыць працоўнаму калектыву, а астатнія купленыя звычайнымі нашымі грамадзянамі за чэкі «Маёмасць» (то бок у дзяржавы няма ніводнай акцыі) усё-такі нацыяналізуюць, то будзе створаны вельмі небяспечны прэцэдэнт, ад якога можа разгарнуцца цэлая хваля нацыяналізацыі.

Зрэшты, нават многія капіталістычныя дзяржавы выкарыстоўваюць механізм нацыяналізацыі. Аднак ён запускаецца толькі ў пэўных сітуацыях: па-першае, калі прадпрыемства працуе ў важнай для нацыянальнай бяспекі галіне, і па-другое, калі яно збанкрутавала. Абодва гэтыя пункты да выпадку з «Аліварыяй» не падыходзяць. Прэцэдэнт нацыяналізацыі прыватнага прадпрыемства, без сумневу, можа яшчэ больш адпудзіць ад нашай хворай эканомікі і без таго асцярожных патэнцыйных інвестараў.

Не выключана, што спроба нацыяналізаваць «Аліварыю» пралабіравана ў беларускім урадзе тымі, хто паклаў на гэты бровар вока, а хоча пакласці яшчэ і руку. Пасля нацыяналізацыі завод можа быць часткова прададзены замежнаму капіталу. Актыўны інтарэс да піўной галіны Беларусі ў апошні час з боку расійскіх магнатаў робіць гэтую версію досыць верагоднай.

Няўцямнасць урадавага рашэння яшчэ і ў тым, што «Аліварыя» працуе лепш, чымсьці мноства іншых дзяржаўных прадпрыемстваў, у тым ліку піўной галіны, а ніякіх санкцыяў да іх не прымаецца, а таксама ў тым, што адставанне ад прагназаваных аб'ёмаў вытворчасці за першыя 4 месяцы бягучага году мізэрнае – 13%, прычым у другім квартале гэтае адставанне пакрываецца. Дый навошта ператвараць піваварны завод з прыватнага ў дзяржаўны, калі многія дзяржаўныя бровары занепалі так, што іх варта зачыняць. На самой «Алівары» суцяшаюцца тым, што правесці працэдуру нацыяналізацыі будзе складана, таму што ў Беларусі няма нават адпаведнага закону. Але чаго ў нас толькі ненармальнага і незаконнага не здараецца…

**Кірэй МАНУЙЛА**

Назва заводу «Аліварыя», заснаванага ў 1864 годзе, з грэцкай мовы перакладаецца як «надзея». На сёння аб'ём вытворчасці «Алівары» – 2 мільёны дэкалітраў піва на год. Гэта чацвёртае месца ўслед за «Крыніцай», а таксама броварамі ў Лідзе і Рэчыцы.

# Цягнікі забіваюць людзей

## *За 3 папярэднія гады і сёлета на рэйках Беларускай чыгункі загінулі каля 800 чалавек*

***У працоўную суботу 29 чэрвеня брыгада лесарубаў Кобрынскага лясгасу вярталася з дзялянкі на аўтамабілі УАЗ-3303. У 17:02 машына пад'ехала да чыгуначнага пераезду без аховы на станцыі Тэўлі. Пры невялікай тут чарзе і ўключанай сігналізацыі вадзіцель спадзяваўся раней за іншых праскочыць цераз рэйкі, але жорстка памыліўся – хуткі цягнік Прага–Масква пратараніў аўтамабіль. Вадзіцель і 5 чалавек загінулі. Самаму старэйшаму з іх было крыху больш за 40 гадоў.***

Рэха гэтай трагедыі болем адгукнулася па ўсёй Брэстчыне. Маладых нябожчыкаў аддалі зямлі, але 2 ліпеня вобласць ускалыхнула новая бяда, якую пацягнула за сабой першая. У небе над Германіяй падчас сутыкнення самалётаў «Ту-134» і «Боінг-757» загінула сям'я Шыслоўскіх з Брэсту. 43-гадовы Алег Шыслоўскі, яго 40-гадовая жонка Людміла, дочкі Вольга 17 гадоў і Юлія 15 гадоў апынуліся ў самалёце «Башкірскіх авіяліній» з волі лёсу. Яны разам з сябрамі выехалі з Брэсту якраз тым цягніком № 22 «Прага–Масква», які з-за жудаснай аварыі на пераездзе ля станцыі Тэўлі адправіўся ў далейшы шлях на 3 гадзіны пазней. У Маскве ў Шыслоўскіх узніклі цяжкасці з афармленнем дакументаў у пасольстве Іспаніі, таму яны не змаглі паляцець разам з сябрамі і селі ў самалёт «Башкірскіх авіяліній». Зараз смяротны пераезд у Кобрынскім раёне ўсланы жывымі кветкамі, сюды прыходзяць выплакаць сваё гора па забраных маладых жыццях бацькі, жонкі і дзеці. У аблвыканкаме мусілі стварыць адмысловую камісію па высвятленні прычынаў трагедыі, каб даць народу аб'ектыўныя тлумачэнні.

Са свайго боку, карэспандэнт НАШАЙ СВАБОДЫ па журналісцкім абавязку пацікавіўся ў рэспубліканскай транспартнай пракуратуры колькасцю трагічных выпадкаў на рэйках Беларускай чыгункі. Статыстыка прыкрая. У 1999 годзе загінулі 219 чалавек; у 2000 годзе – 233; у мінулым – 243. Сёлета, паводле звестак да траўня месяца ўключна, на аб'ектах чыгуначнага транспарту Беларусі зарэгістраваныя ўжо 125 няшчасных выпадкаў, у якіх пацярпеў 131 чалавек. З іх 73 чалавекі загінулі.

З кабінетаў транспартнай пракуратуры рэдка праточваецца поўная інфармацыя пра ход расследавання крымінальных справаў, але нават дазіраваны аб'ём звестак дазваляе меркаваць, што няшчасці на рэйках – не заўжды вынік парушэнняў з боку толькі пацярпелых. У 2001 годзе амаль у 4 разы ў параўнанні з папярэднім годам павялічылася колькасць чыгуначнікаў, якія пацярпелі пры выкананні сваіх непасрэдных абавязкаў. Пры гэтым усталявалася заканамерная сувязь паміж выпадкамі п'янства і ростам колькасці цяжкіх калецтваў альбо гібелі. За знаходжанне на працоўным месцы ў нецвярозым стане былі складзеныя адміністрацыйныя пратаколы і вынесеныя штрафныя пакаранні на 703 працаўнікоў Беларускай чыгункі. У першым квартале гэтага году адлучаны ад працы, каб пазбегнуць горшага, 274 выпівохі.

Як ўладальнікі тэрыторый, на якіх размешчаны чыгуначныя лініі і магістральныя камунікацыі (як правіла, гэта зоны павышанай небяспекі), прадпрыемствы і арганізацыі чыгункі павінны іх агароджваць. Аднак пры праверцы выканання заканадаўства па накіраваным прадухіленні траўмавання грамадзянаў пракуратура выявіла істотныя недахопы. Прыкладам, на станцыі «Мінск-Усходні» і прыпыначным пункце «Лябяжы» ў Мінску, пры стоўпатварэнні пасажыраў на барысаўскім кірунку і наведнікаў рынку ў Ждановічах, здараюцца выпадкі траўматызму з-за адсутнасці надзейнай засцерагальнай агароджы. Праект такой агароджы, як і пешаходнай развязкі на станцыі «Мінск-Усходні», з'явіўся пасля таго, як трое з пацярпелых вырашылі судзіцца з Мінскім аддзяленнем і патрабаваць кампенсацыі матэрыяльных стратаў. Самі чыгуначнікі зазначаюць, што сітуацыі, пры якіх гінулі людзі, розныя – гэта і бесклапотнасць, і залішняя самаўпэўненасць, і паспешлівасць, і нядбайнасць, а таксама алкагольнае ап'яненне. Менавіта з-за апошняга пацярпелі сёлета 47 грамадзян.

Чыгуначныя пераезды, якія масава пазбавілі ад аховы дзеля эканоміі сродкаў, пакінуты зараз на самасвядомасць грамадзян. Сродкі сігналізацыі тут застаюцца архаічнымі, і пра ўкараненне блакіровачнага абсталявання па прадухіленні экстрэмальных сітуацый нічога не чуваць. Пагарджанне ж правіламі дарожнага руху якраз і прывяло да 15 дарожна-транспартных здарэнняў, што адбыліся на працягу 4-х месяцаў 2002 году (у 2001 годзе іх было 13), у выніку якіх 4 чалавекі загінулі і 10 пацярпелі.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

# І фальшыўкі бываюць «супер»...

Аксана ЯНОЎСКАЯ

*Калі карэспандэнтка НАШАЙ СВАБОДЫ ў экспертна-крыміналістычным цэнтры ГУУС Мінгарвыканкаму ўбачыла вялікі стос папер з прышпіленымі да іх далярамі, не магла ўстрымацца ад воклічу: «Колькі грошай!» Старшы эксперт Елізавета Леўчанка расчаравала: «І ўсе фальшывыя!»*

### Тэхнічная рэвалюцыя

Часы, калі выраблялiся клішэ ці грошы проста маляваліся, прайшлі. Цяпер цяжкую і творчую ручную працу замяніла разумная тэхніка. Вось што расказала Елізавета Леўчанка:

– Існуюць два віды падробак. Поўная падробка, якую мы адносім да класу «супер»: банкноты вырабляюцца на паліграфічным абсталяванні амаль па сапраўднай тэхналогіі. На такіх банкнотах ёсць вельмі нязначныя дэфекты, якія могуць адрозніць толькі нашы эксперты ці калегі з банкаўскіх установаў. На сціплейшым паліграфічным абсталяванні вырабляюцца фальшыўкі не такой высокай якасці. Таксама выкарыстоўваецца рэпраграфія (ксеракс, лазерны, кропельна-струйны прынтэры). Грошы, падробленыя такімі спосабам, значна адрозніваюцца ад падробак класу «супер».

Пры частковай падробцы змяняецца вартасць банкноты. Да ўвядзення еўра чэшскія кроны перараблялі ў нямецкія маркі.

Улюбёная валюта фальшываманетчыкаў – даляры. Найчасцей на банкноту вартасцю 5 даляраў прыклейваюць нулік і атрымліваецца 50. Другі спосаб больш працаёмкі: здымаецца ксеракопія з сапраўднай 50-даляравай банкноты і на 5-даляравую прыклейваюцца партрэт, намінал і надпіс. Пра сапраўдную вартасць кажа толькі надпіс *five*. Хоць у нашай краіне даляры распаўсюджаны не менш, чым беларускія грошы, але людзі лянуюцца вывучаць партрэты амерыканскіх прэзідэнтаў і далёка не ўсе ведаюць англійскую мову, каб адрозніць надпіс *five*, што адпавядае 5, і *fifty* – 50.




Беларускія грошы падрабляюць звычайна на кропельна-струйных прынтэрах. Трэба звяртаць увагу на колер банкноты – у падробленых ён святлейшы і не мае патрэбнай яркасці. У такой банкноты не можа быць вадзяных знакаў, але асобныя ўмельцы малююць лыжніка. Таксама на падробках металічная лінія недастаткова выразная. Адна з галоўных прыкмет падробкі пяцітысячнай беларускай банкноты – толькі з-пад ксеракса яна блішчыць, а пад уздзеяннем вады фарбы расплываюцца.

### Падрабіць, дык мільён

Супрацоўнікам аддзелу па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Фрунзенскага РУУС Мінску не аднойчы даводзілася затрымліваць злачынцаў з буйнымі партыямі фальшывых грошай. Днямі была перададзена ў суд крымінальная справа ў дачыненні да дзвюх грамадзянак, якія займаліся збытам фальшывых даляраў.

З аператыўных звестак стала вядома, што грамадзянка К. гандлюе фальшывымі далярамі. Банкнот, выкананы паліграфічным спосабам і вартасцю 100 даляраў, яна прадавала за 50 сапраўдных. Той, хто набыў фальшыўку, купляў што-небудзь на рынку за 10 даляраў і атрымліваў рэшту сапраўднымі грашыма. Неяк грамадзянка К. вырашыла, што прыйшоў час «працаваць» па-буйному. І пачала шукаць пакупніка на 50 купюр вартасцю па 100 даляраў. Але раней яе знайшлі і затрымалі супрацоўнікі АБЭЗ. Пасля першапачатковых следчых дзеянняў стала вядома, хто сапраўдны гаспадар фальшывак – грамадзянка Д., якая была прапісана ў Брэсце, а ў Мінску разам з мужам здымала кватэру. Пры вобшуку ў яе знайшлі яшчэ сем купюр па 100 даляраў. Яны аказаліся ідэнтычнымі тым, што знайшлі ў К. Грамадзянку Д. таксама затрымалі. Застаецца дадаць, што за выраб і збыт фальшывых грошай прадугледжана пакаранне ў выглядзе абмежавання волі на тэрмін ад 2 да 5 гадоў ці пазбаўлення волі ад 2 да 7 гадоў з канфіскацыяй маёмасці ці без канфіскацыі. А калі займацца такімі справамі групаю ці ў асабліва буйным памеры, то прадугледжанае пакаранне – пазбаўленне волі ад 5 да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

### Правінцыялы-фальшываманетчыкі

– У красавіку бягучага году супрацоўнікамі нашага ўпраўлення сумесна з аддзелам АБЭЗ Кастрычніцкага РУУС з доказамі злачынства на руках пры збыце фальшывай 100-даляравай купюры быў затрыманы жыхар Маладзечна, – распавядае старшы оперупаўнаважаны УБЭЗ ГУУС Мінгарвыканкаму Яўген Грачоў. – У выніку праведзеных аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў высветлілі, што гэтую купюру ён атрымаў ад свайго знаёмага, студэнта гандлёва-эканамічнага тэхнікуму Маладзечна. З аператыўных звестак вынікала, што студэнт «супрацоўнічае» з раней судзімымі жыхарамі гарадскога пасёлка Астравец, якія знаходзіліся ў вышуку за здзяйсненне серыі разбояў у Гродзенскай вобласці. Пры садзейнічанні УБЭЗ МУС і спецпадраздзялення «Алмаз» іх затрымалі. У час вобшуку па месцы жыхарства аднаго з разбойнікаў былі знойдзены 4 банкноты вартасцю ў 100 даляраў. Была ўзбуджана крымінальная справа, і ў ходзе аператыўных мерапрыемстваў па ёй стала вядома, што адзін з удзельнікаў злачыннай групы, які ў момант затрымання «калег» знаходзіўся ў Паставах, шукае пакупніка на партыю ў суме 1000 фальшывых даляраў па кошце 60 сапраўдных за 100 падробных. Пракурор сталіцы санкцыянаваў праверачную закупку гэтай партыі. Так быў затрыманы апошні член злачыннай групы. Пры вобшуку ў яго былі знойдзены 9 купюр вартасцю 100 даляраў. Па заключэнні экспертаў, усе яны фальшывыя. Але было вельмі важна высветліць крыніцу паступлення фальшывых грошай у нашу краіну. Пасля правядзення пэўных аператыўных мерапрыемстваў стала вядома, што гэтыя даляры ў нашу краіну прывёз грамадзянін Літвы, які меў від на жыхарства ў Беларусі і права бесперашкоднага праезду ў нашу краіну. На момант атрымання гэтай інфармацыі «літовец» знаходзіўся ў Астраўцы. Там яго і затрымалі. Цяпер следства працягваецца і высвятляецца яго дачыненне да збыту фальшывых купюр на працягу 2000–2001 гадоў у Мінску.

Паводле стану на 1 ліпеня бягучага году супрацоўнікамі сталічнай міліцыі выяўлена 238 фактаў вырабу, захоўвання і збыту фальшывых грошай. Летась за адпаведны перыяд было зарэгістравана 311 такіх злачынстваў. Раскрывальнасць у 2001 годзе склала 21,5%, у 2002-м – 23,1%.

# Злыя жарты

## *спусташаюць кішэню і пазбаўляюць волі*

Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ

З пачатку бягучага году ўпраўленнямі ўнутраных спраў Мінску было зафіксавана 27 паведамленняў пра замініраванне навучальных і забаўляльных установаў. За ўвесь мінулы год такіх тэлефанаванняў было 35. Толькі ў Фрунзенскім раёне сталіцы з пачатку году было 5 фактаў «тэлефоннага тэрарызму». Усе яны аказаліся несапраўднымі. Але адміністрацыйная і крымінальная адказнасць за іх прадугледжана самая сапраўдная.

### Замест клуба ў турму

19-гадовы хлопец, будучы нападпітку, вырашыў наведаць начны клуб «Мэдысан». Але ахоўнікі патлумачылі, што правілы клуба не дазваляюць прапускаць нецвярозых наведнікаў. Раззлаваўшыся, хлопец з свайго «мабільніка» патэлефанаваў па «02» і паведаміў, што клуб замініраваны. Адразу па трывозе былі падняты міліцыя, сапёры, супрацоўнікі МНС, «хуткая дапамога». У гэты ж час адміністрацыя клуба і служба аховы вымушаны былі прасіць наведнікаў пакінуць памяшканне. Пасля пільнага абследавання клуба сапёрамі высветлілася, што ніякага выбуховага прыстасавання там не было.

Супрацоўнікам міліцыі гэтым разам было няцяжка высветліць асобу паведамляльніка. Пасля правядзення аператыўна-следчых мерапрыемстваў ён быў затрыманы. Маладога чалавека ўзялі пад варту. Справа ўжо перададзена ў суд. Адміністрацыя клуба падлічыла нанесеную матэрыяльную шкоду. За свой злы жарт малады чалавек можа атрымаць ад пяці да сямі гадоў пазбаўлення волі. І яшчэ будзе абавязаны кампенсаваць выдаткі клуба.

### Юны «тэрарыст» давёў бацькоў да банкруцтва

Яшчэ гадоў пяць таму, калі дзіця не хацела ісці ў школу з прычыны нявывучаных урокаў, то сімулявала хваробу. Цяпер іншая мода. Каб не пісаць кантрольную ці проста папсаваць нервы настаўнікам, дзеці тэлефануюць «02» і паведамляюць, што школа замініравана. Зноў спецслужбы імчацца па гэтым адрасе, праводзіцца эвакуацыя вучняў. А потым сапёры не могуць знайсці ніякага выбуховага прыстасавання, бо яго там і не было.

Як расказалі ў аддзеле дазнання Фрунзенскага РУУС Мінску, усіх «несапраўдных тэрарыстаў» удалося выявіць. Хоць не заўсёды гэта лёгка. Апошнім і вырашальным доказам у такіх справах лічыцца фонаскапічная экспертыза. Не сакрэт, што ўсе тэлефанаванні ў дзяжурныя часці міліцыі і па «02» фіксуюцца на магнітафон. Асоба, якая трапіла пад падазрэнне, накіроўваецца на фонаскапічную экспертызу. Нават калі «тэрарыст» намагаўся змяніць голас, экспертаў і сучасную тэхніку ашукаць немагчыма.

Супрацоўнікамі Фрунзенскага РУУС асобы ўсіх пяці «тэрарыстаў» раённага маштабу высветлены. Сярод іх двое падлеткаў, якія не дасягнулі 14 гадоў – узросту, калі за такое злачынства наступае крымінальная адказнасць. І цяпер іх возьмуць на ўлік у інспекцыі па справах непаўналетніх, а іх бацькі заплацяць адміністрацыйны штраф у памеры 10 базавых велічынь і ўсе выдаткі спецслужбаў: ад кошту бензіну да абеду сапёраў. Сума выдаткаў па апошняй «падлеткавай» справе склала 3 415 000 рублёў. Падлеткам варта параіць падумаць, ці па кішэні бацькам заплаціць за іх злыя жарты.

# Мінск знаёміцца з Шагалам

Ядвіга МАЦКЕВІЧ

***Творчасць Марка Шагала даўно набыла сусветную вядомасць і праславіла Беларусь, аднак у час паўсюднага прызнання і поспеху на радзіме пра мастака амаль нічога не ведалі. Пра гэта дбалі савецкія ідэолагі. У апошняе дзесяцігоддзе Шагал вяртаецца да беларусаў.***

**Мэрэт МЭЙЕР-ГРАБЭР, унучка мастака:**

– Мая сястра Бэла і я вельмі шчаслівыя і ўсхваляваныя тым фактам, што ўжо трэці раз маем гонар узяць удзел у арганізацыі выставы на радзіме нашага дзядулі. Спадзяюся, што выстава прынясе гледачам столькі ж шчасця, колькі перажылі мы, калі рыхтавалі яе.

*– Вы ўжо не першы раз наведваеце нашу краіну. Ці не было ў вас жадання на даўжэйшы тэрмін прыехаць у Беларусь, ці, напрыклад, вывучыць мову вашых дзядулі і бабулі?*

– Зараз мы тут амаль тыдзень, я вярнуся ў кастрычніку, калі скончыцца выстава ў Віцебску. Пасля, калі час дазволіць, вядома, я прыеду ў Беларусь з вялікім задавальненнем.

Калі мне было 15 год, я брала ўрокі рускай мовы, я хацела вывучыць мову, на якой размаўлялі дзядуля, бабуля і мая маці. Але ў гэты час я вучылася на факультэце філасофіі і прыйшлося спыніць гэтыя заняткі. Аднак калі я менш буду займацца выставамі, я больш часу прысвячу вывучэнню рускай і беларускай моваў. Я спадзяюся, што гэта ў хуткім часе адбудзецца.

Першая сустрэча беларускіх гледачоў з мастацтвам Марка Шагала адбылася ў 1997 годзе. Тады для экспанавання ў Мінску і Віцебску музей «Біблейская вестка Марка Шагала» ў Ніцы і ўнукі мастака прадставілі для выставы творы так званага «міжземнаморскага» перыяду яго творчасці са сваіх уласных калекцый. Пасля Бэла Мэйер і Мэрэт Мэйер-Грабэр, унучкі мастака, выршылі паказаць на радзіме свайго дзеда частку працаў, якія захоўваюцца ў іхніх прыватных зборах. У выніку, у 2000 годзе ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адбылася другая выстава – «Прысвячэнне Парыжу»: эцюды, эскізы роспісу плафона ў *Grand Opera*, літаграфіі і габелены.

Яшчэ некалькі гадоў таму на пытанне «ці ёсць у нашых калекцыях творы мастака?» беларускія музейшчыкі разводзілі рукамі. Аднак трэба прызнаць, што сёння дзякуючы замежным прыхільнікам творчасці майстра ў калекцыі Шагалаўскага цэнтру ў Віцебску налічваюцца ўжо дзесяткі яго работ. Зараз усе кажуць пра «вяртанне» Шагала ў Беларусь. І гэта сапраўды так, бо тры выставы, што адбыліся дагэтуль, – толькі першы крок у выхадзе са шматгадовага занядбання яго творчасці на радзіме.

На адкрыцці ў музеі прысутнічала шмат гасцей з розных краін. Сярод іх вылучаўся навуковец з Кейптаўну (Паўднёва-Афрыканская рэспубліка) Алан Крамп, мастацтвазнавец і даследчык творчасці Шагала. Сярод самых знакамітых – Сільві Фарэсцьe, галоўны ганаровы захавальнік айчыннай спадчыны Францыі, былы дырэктар Нацыянальнага музея Шагала ў Ніцы. «Я ўпершыню ў жыцці наведала Беларусь, і ўпершыню я адкрыла для сябе родны горад Шагала – Віцебск. Я ўдзячна ўсім, хто дапамог мне ажыццявіць маю самую запаветную мару, бо творчасць Шагала – гэта перадусім пейзаж яго роднага горада», – сказала сп-ня Фарэсцьe. Былі таксама госці з Расіі.

**Ян КРУК, намеснік дырэктара Траццякоўскай галерэі:**

– Я прыехаў па сваёй уласнай ініцыятыве, бо вельмі хацеў выступіць на чытаннях. Я ўзяў у іх удзел з цікавымі, на мой погляд, удакладненнямі і матэрыяламі, падрыхтаванымі мной па шагалаўскіх дакументах, што захоўваюцца ў Траццякоўскай галерэі. Гэта дазволіла ўдакладніць істотныя факты з біяграфіі мастака.

Мне здаецца, што гэта вельмі важна зараз, бо Шагал – грандыёзная асоба. У ім цэлы свет, дзе не так проста разабрацца. Як навуковец, паводле годных веры звестак, я магу сказаць, што Шагал – адзін з самых шанаваных і папулярных мастакоў XX ст. у свеце. Ёсць слава і ёсць любоў да яго творчасці. А гэта вельмі рэдка супадае.»



Сёлетняя выстава «Пейзажы Марка Шагала» працягнецца ў Мінску з 10 ліпеня па 2 верасня. Пасля гэтага, з 10 верасня па 20 кастрычніка, яна пройдзе ў Віцебску, у музеі Марка Шагала. Усяго экспануецца 34 працы, 13 з іх – жывапіс алеем. Натуральна, калі казаць пра ўсю пейзажную творчасць майстра, то гэтая выстава можа толькі крыху наблізіць гледача да бачання яго свету. Але, па словах Мэрэт Мэйер-Грабэр, тут «можна ўбачыць самыя асноўныя работы Шагала ў гэтым жанры» – пейзажы Віцебску, пейзаж Іерусаліму, два грэцкія, а таксама пейзажы цэнтру і поўдня Францыі.

Мастацтвазнаўцы адзначаюць, што амаль усе творы мастака ўвабралі ў сябе матывы пейзажнага жанру. І амаль заўсёды пейзаж Шагала – гэта краявіды віцебскага наваколля ці від з акна бацькоўскай хаты. Мэта мастака – не толькі перадаць вобраз прыроды сам па сабе, а зрабіць яго нашмат глыбейшым і больш сімвалічным. «Пейзаж-партрэт», «пейзаж-карціна», «пейзаж-фантазія» – усе гэтыя жанры ў ягонай творчасці спалучаюць рамантычныя пачуцці з асабістымі перажываннямі. Карціны Шагала – адзіны жывы арганізм, дзе будынкі, людзі, жывёлы, дрэвы, букеты кветак бышцам прарастаюць адно ў адно, ствараючы ўражанне адзінства ўсяго ў свеце. Свет мастака вельмі суб'ектыўны і аўтэнтычны. Ён ніколі не ставіў на мэце перадаць дакладны архітэктурны пейзаж, бо ўспрымаў яго часцей за ўсё як асяроддзе для паказу сваёй складанай, сімвалічнай гісторыі.

# Свята ў Будславе

**Штогод у першыя дні ліпеня ў вёску Будслаў на Мядзельшчыне дзеля сустрэчы з найвялікшай святыняю беларускіх каталікоў – абразом Маці Божай Будслаўскай, які мае ўжо больш як чатырохсотгадовую гісторыю і захоўваецца ў тамтэйшым касцёле, – збіраюцца тысячы вернікаў, святароў і проста цікаўных. Праз гэтую традыцыю пабудаваны ў XVIII стагоддзі ў стылі позняга барока касцёл атрымаў з 1998 году статус Нацыянальнага санктуарыю.**



Кардынал Казімір Свёнтак у часе ўрачыстай імшы



Пілігрымы на свяце Маці Божай Будслаўскай

Адметная рыса будслаўскага фэсту – звычай пешых пілігрымак. Сёлета пілігрымаў з блізкіх ды далёкіх мясцовасцей Беларусі прыйшло больш за тысячу. Найбольшая група – у 380 чалавек – прыйшла з Мінску. Адмыслова маляваныя ды вышытыя харугвы, з якімі пілігрымы ішлі ў Будслаў, занялі пачэснае месца ў заключнай урачыстай працэсіі разам з бел-чырвона-белым сцягам ды сцягам з чырвоным крыжам на белым фоне.

На сёлетнія святкаванні ў Будславе сабралася ці не найбольш людзей за апошні час – каля 20 тысяч чалавек прыехалі з усіх куткоў Беларусі, а таксама з Расіі, Польшчы, Украіны, Латвіі, Літвы і нават з Малдовы. У шэрагу святочна апранутых ксяндзоў падчас кульмінацыйнага моманту святкаванняў – Святой Імшы – звяртаў на сябе ўвагу святар-негр з Камеруну, які служыць у Расіі. Гэтым разам у Будслаў сабраліся ўсе беларускія біскупы, прыехаў нават гарадзенскі біскуп, які звычайна гэтай парою заняты падрыхтоўкай свята Маці Божай у Тракелях. Сваю імшу адправілі ўначы святары і вернікі грэка-каталіцкай царквы, а раніцай ля касцёлу можна было пабачыць праваслаўных вернікаў, якія гандлявалі сваёй духоўнай літаратурай ды збіралі ахвяраванні на пабудову царквы ў Любані. Тым часам удзельнікі леташняга святкавання ў Будславе адзначылі адсутнасць сёлета прадстаўнікоў свецкіх уладаў, для якіх раней нават адводзіўся асобны куток ля ўзвышэння, з якога кардынал Казімір Свёнтак пры дапамозе біскупаў праводзіць галоўную падзею святкаванняў – канцэлебраваную Святую Імшу. У пошуках тлумачэння гэтаму некаторыя ўдзельнікі схіляліся да думкі пра ўплыў нядаўна прынятай новай рэдакцыі закону аб веравызнаннях.

Колькасць гандлёвых намётаў ды іншых, часам імправізаваных, гандлёвых пунктаў на вуліцах Будслава наводзіла на думку, што гэтыя вуліцы ды дарогі, па якіх гандляры і іхнія патэнцыйныя кліенты сюды дабіраюцца, дагэтуль застаюцца неасфальтаванымі толькі з-за асаблівасцей нашай эканомікі ды дзяржаўнага ладу. Гандляры першымі адчулі вынікі далейшага развіцця гэтых асаблівасцяў пасля прэзідэнцкіх выбараў, бо, паводле іхніх словаў, ужо ў лютым жонкі купілі да «мужчынскага» свята ў якасці падарункаў не «кофты-кашулі», як звычайна, а «шкарпэткі-тапкі». А прыбыткам ад гандлю падчас сёлетняга фэсту ў Будславе многія ўвогуле непрыемна здзівіў, бо аказаўся амаль у дзесяць разоў меншым за мінулы год.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**



Споведзь ксяндзу

# Бартавая сістэма «Ту-154» раіла: «Падняць вышыню палёту»

*Авіякатастрофу над Бадэнзее можна было б, верагодна, прадухіліць, калі б пілот расійскага «Тупалева» паслухаўся папярэджання сваёй бартавой сістэмы бяспекі палётаў.*

Але, як паказала расшыфроўка «чорнай скрынкі», зробленая супрацоўнікамі Федэральнага ведамства па расследаванні авіяцыйных катастроф у Браўншвейгу (*BFU*), расійскі экіпаж акурат праз секунду пасля таго, як на індыкатары сваёй сістэмы аўтаматычна з'явілася каманда на павелічэнне вышыні, атрымаў ад авіядыспетчара фатальную каманду, якую і выканаў.

Згодна з паведамленнем супрацоўнікаў *BFU*, гэтыя супярэчлівыя ўказанні швейцарскай службы бяспекі палётаў *Skyguide* і бартавой сістэмы папярэджання *TCAS* удалося рэканструяваць з дапамогаю «чорнай скрынкі». Пашкоджаныя касеты былі адноўлены ў канцы мінулага тыдня. За хвіліну да сутыкнення абодва прыборы *TCAS*, якія знаходзіліся на борце самалёта, зрабілі папярэджанне *Traffic, Traffic*. Дакладна за 45 секунд да сутыкнення сістэмы *TCAS* «Боінга-757» далі каманду на зніжэнне, а «Ту-154» – на пад'ём. Але ўсяго праз секунду пасля папярэджання, зробленага сістэмай *TCAS*, экіпаж «Ту» атрымаў ад службы бяспекі палётаў з Цюрыху каманду на зніжэнне. Праз яшчэ 14 секунд *Skyguide* дала чарговую каманду: паскорыць зніжэнне. *BFU* пацвердзіла, што авіядыспетчар з Карлсруэ ўбачыў праз радар, што можа адбыцца сутыкненне, і паспрабаваў папярэдзіць пра гэта швейцарскую службу бяспекі палётаў *Skyguide*. Але дазваніцца ён не змог. У Нямецкай службе па забеспячэнні бяспекі палётаў (*DFS*) у Лангене паведамілі: «Наша спроба звязацца з калегамі ў Цюрыху з невядомых прычын не ўдалася». Паводле звестак *BFU*, авіядыспетчар, які спрабаваў звязацца праз тэлефон з Цюрыхам, назіраў за набліжэннем катастрофы на экране свайго лакатару. У нейкі момант ён уздыхнуў з палёгкай, заўважыўшы, што «Тупалеў» пачаў крыху набіраць вышыню. Ён спадзяваўся, што швейцарскія калегі ўнеслі карэктывы ў курс. Але праз пяць секунд, калі малюнак на экране змяніўся, выявілася, што пілот зноў апусціў самалёт да крытычнае вышыні. Для званка праз звычайную тэлефонную лінію часу ўжо не заставалася. Уражанаму авіядыспетчару з Карлсруэ спатрэбілася дапамога псіхолага.

**Berliner Morgenpost, Германія**




**ЗША. Карабель затапілі, каб зрабіць рыф (штучны, вядома). Калі каркас карабля абрасце акіянічнай флораю, гэтае месца стане модным атракцыёнам для аматараў падводнага плавання. Кі Ларга, 26 чэрвеня.**

# У будынку Вярхоўнага суду Расіі знойдзена пахаванне

У сутарэннях будынка Вярхоўнага суду Расіі знойдзена масавае пахаванне. Разбіраючы падлогу падвала, будаўнікі знайшлі чалавечыя шкілеты і паведамілі пра гэта ў міліцыю. Па словах рабочых, якія знайшлі пахаванне, чарапы маюць адтуліны, падобныя да кулявых. Паводле словаў прадстаўнікоў ГУУС, пахаванне адносіцца да 30–40-х гадоў. Пасля рэвалюцыі сутарэнні ВС РФ выкарыстоўваліся ў якасці ізалятару, у якім прыводзіліся ў выкананне смяротныя прысуды. Але, хутчэй за ўсё, парэшткі адносяцца да часоў сталінскіх рэпрэсіяў, калі людзей расстрэльвалі без суду і следства. Усяго ў Маскве выяўлена пяць месцаў масавых пахаванняў. У 1921–1926 гадах расстраляных хавалі на магілках Яузскай бальніцы, падведамнай органам дзяржбяспекі. Памятны знак на гэтым месцы быў адкрыты 27 кастрычніка 1999 году.

# *Ганконг: пярэдадзень заняпаду*

**Пяць гадоў назад толькі невялікае падраздзяленне Народна-вызваленчай арміі ў новых мундурах было знакам таго, што над Ганконгам усталявалася панаванне Пекіну.**

Усё павінна было застацца на сваіх месцах: эфектыўную і не заплямленую карупцыяй Грамадзянскую службу (урад Ганконга), створаную Лонданам у 1949 годзе, па-ранейшаму ачольвала Ансон Чан, уладная і кампетэнтная дачка генерала-гаміньданаўца. Суды па-ранейшаму працавалі на аснове «англасаксонскага права» і вялі сваю ўласную судовую практыку, таму замежныя кампаніі працягвалі складаць кантракты ў Ганконгу. Горад квітнее, хоць паўсюль відаць азнакі, што прадвяшчаюць заняпад.

Зірнем на лічбы: сукупны ўнутраны прадукт на душу насельніцтва былой брытанскай калоніі дагэтуль застаецца крыху вышэйшы, чым у колішняй метраполіі, і ў цэлым эквівалентны французскаму. Аднак выразна адчуваецца, што Ганконг здае пазіцыі. У 1943 годзе ў Чунціні, «тылавой» сталіцы Свабоднага Кітаю, вялікі «Тайпан» (тыгравая змяя) – галоўны перамоўшчык калоніі Сайман Кесвік – нечакана атрымаў ад Чэрчыля прызначэнне на пасаду кіраўніка сакрэтных спецслужбаў у Кітаі. Яму ўдалося пасябраваць з кіраўніком кітайскай дэлегацыі Чжоу Эньлаем, і ён пераканаў таго вярнуць Брытаніі пасля паражэння Японіі валадарства над Ганконгам.



Праз шэсць гадоў Шанхай паў, і дзесяткі тысяч здольных капіталістаў і інтэлектуалаў-цэнтрыстаў, якіх аднолькава мала вабіла і камуністычная дыктатура, і прытулак на Тайвані, прыбылі сюды адраджаць калонію на Жамчужнай рацэ.

Але няўжо сёння Пудон – дзелавы квартал Шанхая – не прапануе тых жа паслуг, што і Ганконг, няўжо не дыхае ён тым жа паветрам культурнай свабоды? У адрозненне ад Ганконгу, ён шчыльна звязаны з кітайскімі рэаліямі, глыбока закаранёны ў іх. Цяпер ужо адстаўныя гаміньданаўскія вайскоўцы, прыбыўшы на Вялікую зямлю ў пошуку таннейшага, чым на востраве, жытла, вяртаючы страчаны росквіт другой кітайскай сталіцы. Да вайны Ганконг ляжаў у спячцы, і сёння яму не ўдаецца ўцячы ад лёсу: ён зноўку робіцца асяродкам рэгіянальнай, а не сусветнай значнасці.

**Courrier International**

# Кантроль без межаў?

*Праваабаронцы называюць «небяспечным прэцэдэнтам» пастанову каірскага суду, які прысудзіў да году турмы веб-дызайнера за публікацыю паэмы ў інтэрнэце.*

Веб-дызайнер і веб-майстар тыднёвіка *Al-Ahram Weekly* Шогдзі Сурур быў у мінулую нядзелю асуджаны каірскім судом да году турэмнага зняволення за тое, што размясціў у інтэрнэце паэму, напісаную больш за 30 гадоў назад яго нябожчыкам бацькам, Нагібам Сурурам. Чакаючы разгляду справы ў касацыйнай інстанцыі, Шогдзі знаходзіўся на волі пад закладам у 200 егіпецкіх фунтаў.

Згодна з пастановаю суду, публікацыя гэтай шырока вядомай паэмы, якая адносіцца да жанру палітычнай сатыры, парушае законы, якія ахоўваюць грамадскую мараль. Паэма насычана так званай ненарматыўнай лексікай. Напісаная больш за 30 гадоў назад, яна застаецца надзвычай папулярнай, у прыватнасці, у колах левай інтэлігенцыі. З-за сваёй сексуальна разняволенай мовы яна ніколі не публікавалася; але нябожчык Сурур у свой час, седзячы ў кампаніі сяброў, нагаварыў яе на магнітафон, і гэтыя касеты сёння ўсё яшчэ ходзяць па руках.

Хоць у Егіпце няма законаў, якія спецыяльна рэгулююць публікацыі ў інтэрнэце, суд палічыў, што можа скарыстаць нормы, якія дзейнічаюць у дачыненні да публікацыі сексуальна адкрытых матэрыялаў у іншых відах медыяў. Тым не менш, справа Шогдзі не мае прэцэдэнтаў. Ні разу дагэтуль у Егіпце не прызначалася ніякіх пакаранняў за публікацыю матэрыялаў палітычнага кшталту.

Шогдзі перакананы, што паэма, напісаная па гарачых слядах вайны з Ізраілем у чэрвені 1967 году, была палкім абвінавачаннем карупцыі, кумаўства і дэспатызму, якія і прывялі да ганебнага разгрому егіпецкіх узброеных сілаў усяго за шэсць дзён і страты Егіптам Сінайскага паўвострава. Хіба не церпіць ад тых жа бедаў, пытаецца Шогдзі, і сённяшні Егіпет? Ці не з-за гэтага паэма так злуе ўлады?

Шогдзі лічыць, што ўлады імкнуцца стварыць ілюзію кантролю над кіберпрасторак і запалохаць людзей, каб яны не выказвалі там сваіх поглядаў. «Ясная рэч, гэта немагчыма, – кажа ён. – Ім гэта ніколі не ўдасца». Асабліва



парадаксальна, на думку Шогдзі, тое, што дзесяць гадоў назад, калі дзяржаўная егіпецкая кніжная арганізацыя задумала выданне поўнага збору твораў бацькі, ніхто нават не ўспомніў пра *Ummiyyat* і пра спрэчкі, якія выклікала паэма.

Адвакат Хафез Абу Саада, генеральны сакратар егіпецкай Арганізацыі барацьбы за правы чалавека, падтрымлівае пункт гледжання Шогдзі. «Нават калі мы прызнаем, што сайт належыць Шогдзі, як суд можа быць упэўнены, што паэму не размясціў нехта іншы?» Хакеры з лёгкасцю могуць пранікнуць у любы сайт і змяніць ягоны змест: «Вось жа, амаль немагчыма вызначыць, хто што напісаў у інтэрнэце».

Адвакаты згадваюць аргументы абароны ў звязаных з інтэрнэтам працэсах у ЗША, такіх, як справа «ЗША супраць *ElcomSoft*» («справа Склярава» – пер.), што разглядалася 25 лютага. Абарона тады настойвала на тым, што ніводная дзяржава не мае тэрытарыяльнай юрысдыкцыі над інтэрнэтам: «У юрыдычным сэнсе інтэрнэт – гэта космас і міжнародныя воды».

У кожным разе – нават калі прызнаць, што сайт належыць Шогдзі, – пастанова суду, лічыць Абу Саада, сур'ёзна абмяжоўвае свабоду слова і стварае небяспечны прэцэдэнт. Абу Саада сказаў, што ўрад ужо наклаў абмежаванні на свабоду выказвання праз газеты і кнігі. «Цяпер такія абмежаванні распаўсюджаны на інтэрнэт. Гэтым урад ясна сігналізуе: ён трымае пад кантролем усё». Асабліва дзіўна, працягвае Абу Саада, што калі бацька Шогдзі быў жывы, яго не пасадзілі ў турму за напісанне гэтай паэмы, а цяпер за яе, магчыма, пасадзяць ягонага сына.

Сайед Бахраві, прафесар Каірскага універсітэту і спецыяліст па сучаснай арабскай паэзіі, кажа: «Нябожчык Сурур быў значным і ўплывовым паэтам. Нішто з напісанага ім нельга прызнаць параграфіяй ці абразаю грамадскай маральнасці. Нават *Ummiyyat*, з яе сексуальна свабоднай моваю, – гэта, па сутнасці, палітычная паэма». Бахраві заклікаў егіпецкіх інтэлектуалаў, паэтаў і пісьменнікаў выказаць салідарнасць з сынам Сурура і разам супрацьстаяць гэтаму замаху на свабоду творчасці. Славуты егіпецкі пісьменнік Санаалдах Ібрагім назваў прысуд па справе Шогдзі ганебным. Ён таксама заклікаў усіх пісьменнікаў і інтэлектуалаў «рашуча выказаць пратэст супраць гэтай спробы задушыць свабоду творчасці і самавыяўлення».

Шогдзі сказаў карэспандэнту *AL-Ahram Weekly*, што, хоць прысуд – відавочнае парушэнне свабоды слова, ён рад, што пакаранне не такое бязлітаснае, як магло б быць у шмат якіх іншых арабскіх дзяржавах. «Прынамсі, у Егіпце я маю права абскардзіць пастанову суду», – сказаў ён. Каірскі апеляцыйны суд разгледзіць апеляцыю Шогдзі 26 жніўня.

**Халед ДАУД, Al Ahram Weekly, Каір**

# «Пацёмкінская вёска»

## *Ельцын кааперуецца з Беразоўскім і алігархамі супраць Пуціна*

**Інтэрв'ю Грыгорыя Яўлінскага нямецкай газеце *Die Welt***



**«DW»: У Расіі, здаецца, наступілі спакой і стабільнасць. Краіна нарэшце стала на слушны шлях?**

**Яўлінскі:** Абаронца навакольнага асяроддзя Грыгорый Пасько сядзіць у турме. Палкоўніку Буданаву, які згвалціў і забіў чачэнскую дзяўчыну, удалося пазбегнуць гэтага з прычыны сваёй недзеяздольнасці. Але гэты недзеяздольны чалавек можа камандаваць танкавай дывізіяй (так у тэксце. – Заўв. пер.). Зусім нядаўна шэраг паслоў замежных краін скардзіўся Міністэрству замежных справаў, што ім стала страшна выходзіць на вуліцу расійскіх гарадоў. Вось так выглядае спакой і стабільнасць. Па-мойму, казаць пра стабільнасць у Расіі не выпадае. Рэч у тым, што цяперашняя сітуацыя грунтуецца не на збалансаванасці палітычных супрацьвагаў і інстытутаў, а на тым, што ў краіне не існуе адкрытых сродкаў масавай інфармацыі, няма адкрытай дыскусіі, няма прафсаюзаў, а партыі не маюць магчымасці адкрыта заяўляць сваю думку. Гэтая псеўдастабільнасць можа ў кожны момант раптоўна і рэзка перамяніцца. А што да шляху развіцця, то ў Расіі працягваецца развіццё вузка абмежаванай карпаратыўнай сістэмы і ўмацаванне сістэмы Ельцына.

**«DW»: Адразу пасля свайго прыходу прэзідэнт Пуцін абяцаў, што ён будзе трымаць усіх алігархаў на роўнай адлегласці ад улады. Ці ўдалося гэта, на Вашую думку?**

**Яўлінскі:** Алігархія – гэта злачынны саюз бізнесу і ўлады з мэтаю каласальнага павышэння прыбытку і ўзмацнення кантролю. Гэта кровазмяшэнне. У гэтым сэнсе нічога не змянілася. На адлегласці трымаюць толькі двух чалавек.

**«DW»: Беразоўскага і Гусінскага?**

**Яўлінскі:** Так, усе астатнія засталіся, алігархічная сістэма жыве надалей.

**«DW»: Эканамічная сітуацыя за апошнія два гады адносна стабілізавалася, прынята маса новых законаў. Ці на правільных рэйках знаходзіцца працэс рэфармавання?**

**Яўлінскі:** У Расіі існуе эканамічная сістэма, якая толькі на 20 працэнтаў служыць інтарэсам насельніцтва і фінансуе адзін вялікі горад. Расія збудавала гіганцкую пацёмкінскую вёску, у якой могуць жыць толькі 20 працэнтаў насельніцтва, пяць працэнтаў – нават вельмі добра, 15 працэнтаў – ніштавата; астатнія 80 працэнтаў, наадварот, выкінуты на вуліцу. Гэта «арабізацыя» Расіі «па-саудаўску». У той жа час, калі звярнуцца да задач, якія расійская эканоміка вырашала ў галіне рэформаў жыллёва-камунальнае гаспадаркі або рэфармавання войска, аховы межаў або стварэння сістэмы бяспекі, то можна канстатаваць: наша эканоміка не гатова да гэтага. У гэтым сэнсе адставанне ад развітых краін працягвае павялічвацца.

**«DW»: Вы не раз заяўлялі пра сваю падтрымку знешнепалітычнага курсу прэзідэнта, які хоча адкрыць краіну для Захаду.**

**Яўлінскі:** Так, бо я лічу гэты курс слушным. Але калі цяпер Ельцын збірае сваю гвардыю, каб выступіць супраць Пуціна, бо кансалідацыя, на яго думку, ідзе занадта марудна, то гэта трэба разглядаць нават у яшчэ шырэйшых рамках.

**«DW»: Вы маеце на ўвазе прыватную паездку Ельцына да беларускага валадара Лукашэнкі пасля таго, як Пуцін адхіліў ідэю аб'яднання з Беларуссю на раўнапраўных умовах?**

**Яўлінскі:** Так, але за гэтым стаіць Беразоўскі. Я ведаю, што Ельцын, калі казаць пра беларускія справы, дадумаўся да гэтага не сам. Гэта гульні, у якіх удзельнічаюць Беразоўскі і незадаволеныя алігархі.

**«DW»: Якія сілы, акрамя Беразоўскага, які цяпер жыве ў Вялікабрытаніі, могуць працаваць у гэтым напрамку?**

**Яўлінскі:** Прэзідэнт нядаўна прыгразіў, што калі нашы «бізнесмены» не раскрыюць сваіх здзелак, што праходзяць праз афшоры, ён прымусіць іх наглытацца пылу па судах. Ды ёсць гэтыя сілы! Плюс Беразоўскі, плюс «сям'я», плюс мафія, плюс спецслужбы, плюс Міністэрства замежных справаў. Сіл хапае.





**Два Барысы, страціўшыя ўладу**

**«DW»: Чым тлумачыцца незадаволенасць тых колаў, якія ўсяго два гады таму прывялі Пуціна да ўлады?**

**Яўлінскі:** Пуцін усё больш робіцца палітычнай асобаю дзяржаўнага ўзроўню. Ён цяпер лепш разумее, што адбываецца ў Расіі. Да таго ж ён робіцца асобаю, якая не можа думаць толькі пра тое, як забяспечыць прыбыткі адной з груповак. Чым больш ён набірае рысаў дзяржаўнага мужа, тым болей яго інтарэсы разыходзяцца з інтарэсамі груповак. Да гэтага дадаецца незадаволенасць ваенных і знешнепалітычных структур знешнепалітычным курсам і магчымасць выкарыстаць Ельцына ў якасці фігуры-каталізатара, вакол якой групуецца так званая сям'я. Лепш спытаць, якія сілы стаяць за яго. Гэта народ. Але гэтага занадта мала, калі супраць – уладныя структуры.

**«DW»: Паміж унутранай і знешняй палітыкай у Расіі існуюць вялікія разыходжанні, іх практычна немагчыма пагадзіць між сабою. Назіральнікі задаюцца пытаннем: ці не закручвае Пуцін гайкі ўнутры краіны, каб мець магчымасць праводзіць празаходнюю палітыку? Або ён збліжаецца з Захадам, каб без ніякіх перашкодаў ствараць у краіне аўтарытарную сістэму?**

**Яўлінскі:** Слушнае пытанне. Знешняя палітыка можа служыць для таго, каб Захад не перашкаджаў яму ў стварэнні карпаратыўнай, крымінальнай сістэмы. Але яна можа таксама служыць і для прасоўвання ў Расіі рэформаў, якія чэрпаюць сваю энергію з супрацоўніцтва з Захадам. Адказ на гэтае пытанне мы атрымаем у найбліжэйшыя месяцы, да канца году. Тады высветліцца, ці зменіць Пуцін свае кадры, ці не.

Die Welt

**ПРЫДНЯСТРОЎЕ**

# *Рэспубліка, дзе правіць гаўляйтар*

**Перад Домам ураду ў Цірасполі высіцца статуя Леніна. За сотню метраў ад яе на пастаменце стаіць свежапафарбаваны танк з надпісам «За Айчыну». Але за гэтым фасадам, які нагадвае музей СССР, хаваецца жорсткі камерцыйны змест.**




У 1991 годзе пасля кароткай крывавай вайны высокаразвітое ў прамысловых дачыненнях Прыднястроўе, населенае пераважна ўкраінцамі і расейцамі, аддзялілася ад Малдовы і абвясціла нікім не прызнаную «Прыднястроўскую Малдаўскую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку».

У Цірасполі правіць «прэзідэнт» Ігар Смірноў са сваім атачэннем, якое закляпочана толькі адным: грашыма. Дзяржаўныя прадпрыемствы прададзены, выручка сплыла па цёмных каналах. Нягледзячы на тое, што за мяжою Прыднястроўе не паважаюць, рэспубліка прываблівае заходніх прадпрымальнікаў. Так, адзін нямецкі канцэрн набыў сталеліцейны завод у Рыбніцы і пачаў пастаўляць сталь па дэмпінгавых цэнах у ЗША.

Смірноў з паплечнікамі прыватызавалі на сваю карысць не толькі наяўную прамысловасць, яны стварылі і новыя структуры. Канцэрн-спрут з прыгожай назваю «Шэрыф» кантралюе заправачныя станцыі, тэлебачанне, друкарні, тэлефонныя кампаніі і футбольны клуб. Абарот, паводле ацэнак, складае мільярд даляраў ЗША.

Але існуе не толькі афіцыйная эканоміка. Прыднястроўе – асяродак міжнароднага гандлю людзьмі, наркотыкамі і зброяй. Ёсць ацэнкі, паводле якіх у Еўропу для заняткаў прастытуцыяй прададзены 100 000 маладых малдаўскіх жанчын, якія не падазравалі, на што ідуць. У самім Прыднястроўі вырабляецца пяхотная зброя, якая экспартуецца ў «гарачыя пункты». І тут сваю долю мае клан Смірнова. Адзін з сыноў «прэзідэнта» – кіраўнік мытні, другі займаецца збройным бізнесам.

Прыкрыццё для Прыднястроўя забяспечвае найперш Украіна, чыя адэская мафія, як сцвярджаюць, мае шчыльныя стасункі са Смірновым. У той жа час адносіны з Расіяй у значнай меры пахаладнелі. Масква пакуль яшчэ трымае ў Прыднястроўі 1 500 сваіх вайскоўцаў з складу 14-й арміі, якія, аднак, павінны быць выведзены адтуль да канца году. За дазвол вывесці з Прыднястроўя складаваныя там 40 000 тонаў боепрыпасаў, якія знаходзяцца пад расійскім кантролем, «урад» Цірасполя патрабуе ад Масквы 500 мільёнаў даляраў ЗША.

**Oberoesterreichische Nachrichten (Аўстрыя)**

# Сп. Пуцін і апошні ў Еўропе дыктатар

## *Рэдакцыйны артыкул газеты* The Washington Post *за 8 ліпеня бягучага году*

Апошні ў Еўропе дыктатар да нядаўняга часу цешыўся спакойным жыццём, бо ягоныя суседзі былі збольшага занятыя вайной з тэрарызмам і крызісамі на Блізкім Усходзе і ў Паўднёвай Азіі. Аляксандру Лукашэнку, які правіць дзесяцімільённым народам Беларусі, ніхто не перашкаджаў і далей мацаваць свой рэжым, ужываючы ўласцівую Савецкаму Саюзу, куды раней уваходзіла Беларусь, тактыку паліцэйскай дзяржавы.

Цягам гадоў урады Злучаных Штатаў і большыні краін Еўропы асуджаюць і байкатуюць сп. Лукашэнку, але гэта амаль нічога не змяняе. Рэч у тым, што сп. Лукашэнку не трэба ад Захаду надта шмат ні ў эканамічным, ні ў палітычным плане. Хоць Беларусь жыве ў адчайнай галечы, апошняе дзесяцігоддзе ёй удалося пратрымацца дзякуючы масіраваным субсідыям з Расіі.

Сп. Лукашэнка спрыяе прытоку грошай, гаворачы пра свае добрыя пачуцці да Масквы. У адрозненне ад любога другога лідэра ў Цэнтральнай Еўропе, ён ганіць Арганізацыю Паўночнаатлантычнай дамовы (*NATO*) і Еўрапейскі Саюз (ЕС). Вось чаму кажуць, што ў Еўропе праз два гады пасля адхілення ад улады лідэра Сербіі Слабадана Мілошавіча ўсё яшчэ існуе дыктатарскі рэжым – бо абодва посткамуністычныя прэзідэнты Расіі, Барыс Ельцын і Уладзімір Пуцін, лічаць зручным захоўваць рэжым сп. Лукашэнкі.

Сп. Пуцін, які заяўляе, што Расія належыць да клубу заходніх дэмакратычных краін, у верасні мінулага году выступіў у абарону сп. Лукашэнкі, калі той сфальсіфікаваў прэзідэнцкія выбары, каб прадоўжыць тэрмін свайго знаходжання пры ўладзе.

Цяпер нарэшце сп. Пуцін прапануе змяніць палітыку. Двойчы за апошнія два тыдні ён публічна асудзіў самую ўлюбёную ідэю сп. Лукашэнкі: утварэнне саюзу паміж Беларуссю і Расіяй, у якім Мінск меў бы роўную з Масквою вагу. Няма падставаў аднаўляць «нешта накшталт Савецкага Саюзу», сказаў сп. Пуцін; калі дзве краіны сапраўды аб'ядноўцца, Беларусі давядзецца адмовіцца ад свайго суверэнітэту або пагадзіцца на абмежаванае партнёрства такога тыпу, як у ЕС.

Сп. Пуцін толькі канстатаваў відавочнае. Аднак да гэтага часу ні ён, ні другі які расійскі кіраўнік не важыўся публічна назваць план сп. Лукашэнкі – які дазваляе таму марыць, што некалі ён будзе правіць у Крамлі – «прававым нонсэнсам». Няясна, ці паслужыў матывам змены падыходу дэмакратычны прынцып; паведамляецца, што сп. Лукашэнка ўціскае інтарэсы расійскіх алігархаў, якія імкнуцца захапіць сабе дзяржаўныя прадпрыемствы Беларусі.

Але цяпер, калі сп. Пуцін праткнуў мыльную бурбалку беспадстаўных надзеяў сп. Лукашэнкі, у расійскага прэзідэнта з'явіўся шанец прадэманстраваць, што ён сапраўды падзяляе каштоўнасці і інтарэсы заходніх дэмакратычных краін, далучыўшыся да іх намаганняў паскорыць канец дыктатуры, якая без Расіі даўно б ужо абвалілася. Беларускія актывісты і расійскія заканадаўцы на мінулым тыдні паведамілі, што сп. Пуцін падтрымаў расследаванне справы пра зніклых апанентаў сп. Лукашэнкі. Гэта быў бы выдатны старт.

**The Washington Post**

*Друкуецца ў скароце*



Сядзіба Тэадора Нарбута ў Шаўрах. Літаграфія Напалеона Орды



Вёска Шаўры сёння

# Гісторыі Тэадора Осцік-Нарбута

Канстанцін МАТУСЕВІЧ

**Калі знакаміты мастак Напалеон Орда паўтара стагоддзя таму назад, гасцюючы ў маёнтку Нарбутаў, маляваў утульны сядзібны дамок, наўрад ці ён мог уявіць, што і гаспадар, гісторык Тэадор Нарбут, і яго жонка пані Крысціна, і іхныя дзеці хутка стануць узорам няшчасця, несправядлівасці лёсу, раскіданага гнязда.**

Сёння ў Шаўрах не вiдаць слядоў той даўняй драмы: няма сядзібы, няма бібліятэкі рарытэтных дакументаў, што збіраў Нарбут, няма брамы перад сядзібай, аздобленай старажытнымі знаходкамі пры раскопках, няма помніка ці бюста чалавеку, які Шаўры ўславіў, няма нават шыльды, якая сведчыць падарожным, што яны патрапілі менавіта ў Шаўры. Аднак стаіць каля могілак памятны камень з надпісам «Нарбутам – удзельнікам паўстання 1863 году. Нашчадкі». Пастаўлены гэты памятны знак у 1989 годзе.

У жыцці Тэадора Нарбута 1863 год хоць і быў горкі, але не ён вызначае Нарбутава жыццё і заслугі.

### Ваенная кар'ера

Тэадор Матэвуш (такое імя ён атрымаў пры хросце) Осцік-Нарбут нарадзіўся ў лістападзе 1784 году. Яму было 11 гадоў, калі кароль Станіслаў Панятоўскі падпісаў у Гродне Акт адмаўлення ад кароны, Рэч Паспалітая знікла з палітычнай мапы свету, а тытул Вялікіх князёў літоўскіх перайшоў да расійскай імператрыцы. Як і бальшыня шляхецкіх сыноў, Тэадор пачатковую адукацыю атрымаў дома, пасля выхоўваўся ў лідскай кангрэгацыі базыльянаў, а адтуль паступіў на матэматычны факультэт Віленскага універсітэту. У 1803 годзе ён ужо значыцца ў Пецярбургскім кадэцкім корпусе, дзе рыхтавалі вайсковых інжынераў.

Накіраваны ў дзеючую армію, Нарбут у 1806–1807 гадах – удзельнік руска-французскай вайны, а ў наступныя гады – руска-шведскай кампаніі, дзе ў бітве пад Або ў Фінляндыі атрымаў кантузію, якая прывяла неўзабаве да страты слыху.

У 1810 годзе Тэадор Нарбут распрацаваў праект Бабруйскай крэпасці і кіраваў пры яе будаўніцтве земляными работамі. Удзел у стварэнні гэтай цвержы быў адзначаны ордэнам святой Ганны з мячамі II ступені. Яго ваенная служба скончаецца напярэдадні вайны 1812 году – ён выходзіць у адстаўку ў чыне штабс-капітана.

### Загадка ў біяграфіі

Афіцыйная версія няўдзелу ў вайне кажа: з прычыны страты слыху ён мусіў пайсці ў адстаўку і ў ваенных дзеяннях не ўдзельнічаў, седзячы ў родных Шаўрах. Другая версія даводзіць, што вайну 1812 году ён сустрэў у Вільні, знаходзячыся пры двары імператара Аляксандра, і нібыта ўзяў удзел у вайне з Напалеонам у шэрагах расійскай арміі і нават атрымаў за гэта медаль. Нарэшце, трэцяя версія мае адваротны змест: ён кінуў расійскую службу, дачакаўся ў Вільні арміі Напалеона, у якой, дзякуючы веданню дзевяці еўрапейскіх моваў, быў перакладчыкам пры штабе Маро. Па заканчэнні вайны мусіў хавацца ў сваякоў, пакуль у 1815 годзе не дачакаўся амністыі. Паколькі сам Нарбут адназначна пра гэты перыяд свайго жыцця не выказваўся, дык невядома, якая з версіяў праўдзівая і ці не сам ён запусціў усе тры як пагалоску, з розніцай на розныя суполкі сваіх знаёмых – патрыятычнага ці прарасійскага мыслення. Аднак, ведаючы, што ў часе паўстання 1831 году ён кантактаваў з паўстанцкім генералам Антоніем Гелгудам і ўдзельнічаў як ваенны інжынер у вырабе гарматак для паўстанцаў, прыняць версію пра адстаўку з прычыны глухаты даволі цяжка. Тым болей, што ў 1831 годзе ўлады арыштавалі яго за літаратурны пасквіль на Расію, аднак суд пакараў Нарбута толькі штрафам.

### Галоўная дзейнасць

Як бы там ні было, Тэадор Нарбут з 1815 году стала асеў у Шаўрах і заняўся гаспадаркай. Сярод яго першых справаў было палепшанне гатункаў лёну і канапель для прамысловага выкарыстання, у чым ён дасягнуў пэўнага поспеху. Яшчэ адным з яго здзяйсненняў стала пабудова ў Друскеніках водалячэбніцы, якая з цягам часу ператварылася ў знаны санаторый.



Адначасна Нарбут набывае вядомасць як археолаг, які правёў раскопкі шэрагу валатовак на Лідчыне і ў Прыдняпроўі, выдаў даследаванне «Пра курганы», вывучыў Лідскі замак і выказаў свае меркаванні адносна прызначэння яго пакояў і памяшканняў.

Самая значная праца Тэадора Нарбута – 10-томная «Гісторыя літоўскага народа», створаная ў 1835–1841 гадах і апублікаваная ў Вільні (за выключэннем дзесятага тому, які застаўся ў рукапісе). Пры ўсёй тагачаснай увазе шляхты да сваіх каранёў, нямногія маглі скласці радавод глыбей за 17 стагоддзе. Тэадор Нарбут лічыў свой род старажытным, які разам з Радзівіламі і Осцікамі вёўся з паганскіх часоў ад вярхоўнага вешчуна Ліздэйкі, які быў сынам вялікага князя Нарымонта. Істотна не тое, колькі ў гэтым праўды, а сардэчны запал, настрой абвостранай увагі да тысячагадовага пласту даўніны, да вобразаў народных і шляхецкіх міфаў.

Шаўры можа не самая прыгожая мясціна на свеце, але, безумоўна, тут пануе нейкая містычная атмасфера. Лёгка паверыць, што ў туманах, што паўставалі над навакольнымі балотамі, Нарбуту бачыліся цені розных эпох, яны збіраліся на свае старасвецкія сустрэчы ў гэты ціхі лясны кут. Шаўры знаходзяцца на тэрыторыі, дзе некалі жыло племя дайноваў, дзе адбываліся інтэнсіўныя балта-дрыгавіцкія кантакты і дзе складалася беларуская народнасць – тагачасныя ліцвіны, гісторыя якіх і стала галоўным зместам яго навуковай працы. Сучасныя Нарбуту гісторыкі (не кажучы ўжо пра добра адукаваных сёняшніх) называлі яго «антыкварам», які нібыта некрытычна складаў у груду розныя і несумяшчальныя старажытныя звесткі, без ваганняў уціскаючы іх у сваю канцэпцыю. Падмуркам апошняй стала апублікаваная Нарбутам «Хроніка Быхаўца», якую адзін час нават лічылі Нарбутавай падробкай. Паколькі рукапіс яе знік пры невядомых абставінах, дык мае правы на жыццё і гэткае меркаванне. Тым болей што Тэадор Нарбут засведчыў немалы літаратурны талент як перакладчык вершаў Гарацыя і «Дон Кіхота з Ла Манчы». Іншымі словамі, ён меў і дар, і вопыт стылізатара. Але варта адзначыць, што чытаць Нарбута непараўнальна цікавей, чым прыхільнікаў акадэмічнай дакладнасці і аб'ектыўнасці, бо яго пісьмо родзіць эмоцыі, якіх і чакае звычайны ўдзячны чытач. Дарэчы сказаць, што папрокі ў «фантазіях» перабольшаныя, бо Нарбут абапіраўся на добрую бібліятэку, у якой, апрача кніг, было мноства дакументаў з Літоўскай метрыкі і з Кёнігсбергу. Яны



Магілы жонкі і двух сыноў Тэадора Нарбута

ПРАБЛЕМА

# Беларусь, UNESCO і глабалізацыя

**На гэтым тыдні адбыўся візіт у нашу краіну генеральнага дырэктара UNESCO Каіціры Мацуўры. Пачынаючы ад 1991 году гэта ўжо трэцяе наведванне Беларусі кіраўніком гэтай паважанай арганізацыі.**

Вынікі дзесяцігадовага супрацоўніцтва Беларусі з UNESCO – гэта ажыццяўленне шэрагу гуманітарных праектаў у межах праграмы «UNESCO-Чарнобыль», рэалізацыю прафінансаваных з боку UNESCO блізу трох дзесяткаў праектаў у галінах адукацыі, навукі і культуры, а таксама ўнясенне ў Спіс сусветнай культурніцкай і прыроднай спадчыны замкавага комплексу ў мястэчку Мір.

Вонкавая міжнародная падтрымка, як фінансавая, гэтак і ідэйная, культурніцкіх і гуманітарных працэсаў, што адбываюцца ўнутры Беларусі, надзвычай важная. Па-першае, у пару глабалізацыі інакш і быць не можа, нельга варыцца ва ўласным саку, па-другое, сваіх уласных рэсурсаў, у першую чаргу эканамічных, у цяперашняй Беларусі жменя. Вунь рэстаўрацыя таго ж Мірскага замку, пасведчанне аб уключэнні якога ў Спіс сусветнай спадчыны прывёз днямі Мацуўры, колькі цягнецца.

Такім чынам, візіт гендырэктара UNESCO – значная падзея ў гуманітарна-культурніцкім жыцці Беларусі. І дужа важна было прыняць высокага госця як след, а, самае галоўнае, падаць наш патэнцыял у адпаведных кампетэнцыі UNESCO сферах як мага прывабней. Ад гэтага ў многім залежыць фармат і плённасць далейшых стасункаў паміж Беларуссю і UNESCO.

Цяжка сказаць, ці спадабаецца японцу Мацуўры гэты візіт у нашу краіну. Бо беларускі бок багата насыціў праграму знаходжання ў нас гендырэктара UNESCO надта афіцыйнымі і цягамотнымі мерапрыемствамі. А ў Мацуўры больш не чыноўніка, а вытанчанага і арыгінальнага чалавека. Адна з ягоных ініцыятываў, каб на Міжнародны жаночы дзень радыё- і тэлеэфір, а таксама газеты былі аддадзеныя ў панаванне жанчын. Цікава прабавіць час Каіціра Мацуўры мог, відаць, хіба што ў вандроўцы ў Мір і на выставе Марка Шагала ў Нацыянальным мастацкім музеі. Яна стала адхланнем пасярод запатрабаваных пратаколам і элементарнай ветлівасцю сустрэчаў з беларускім прэзідэнтам і больш дробнымі чыноўнікамі ды ўдзелам у сімпозіуме «Разнастайнасць моваў і культур у кантэксце глабалізацыі».

Дарэчы, сімпозіум гэты, рыхтаваны цэлым шэрагам грамадскіх аб'яднанняў і дзяржаўных інстытуцыяў ад ТБМ, ПЭН-цэнтру і Саюзу пісьменнікаў да Нацыянальнай камісіі па справах UNESCO і Мінкульта, атрымаўся нейкім няўцямным. Ажно болей сотні дакладаў былі збольшага падобнымі адзін да аднаго агульнымі месцамі пра тое, якім мусіць быць і якім не мусіць быць светапарадак, пра непазбежнасць працэсаў глабалізацыі і важнасць абароны нацыянальных каштоўнасцяў. Каіціра Мацуўры з прычыны шчыльнага графіку візіту пабыў на сімпозіуме зусім трохі, але нават калі б у яго быў час, наўрад ці ён уседзеў бы на ім болей.

Між тым многія нашы патрапіўшыя і непатрапіўшыя на сімпозіум навукоўцы-культуролагі лічаць, што ён быў не толькі малацікавым, але яшчэ і панавуковаму недастаткова прафесійным, змястоўным і паўнавартасным. Маўляў, дзіўяць крытэрыі адбору сімпозіумных дакладаў, і выдае на тое, што па вялікім рахунку яны адбіраліся арганізатарамі па прыкмеце асабістай прыязні да іх аўтараў. Пытанне выклікае і правядзенне ў межах сімпозіуму «Разнастайнасць моваў і культур у кантэксце глабалізацыі» «круглага стала» з назвай «Вытокі фізічнага і маральнага тэрарызму ў эпоху глабалізацыі». Хіба што толькі модна гэта сёння – гаварыць пра тэрарызм. Дырэктарка Скарынаўскага цэнтру Любоў Уладыкоўская-Канаплянік кажа, што ёсць немалыя прэтэнзіі і да ўласна арганізацыі гэтага мерапрыемства. Напрыклад, многія адмыслоўцы да самага апошняга дня не ведалі, ці дадуць ім слова на сімпозіуме.

На думку Уладыкоўскай-Канаплянік, у выніку стан рэчаў у нашай краіне і ейныя інтэлектуальныя магчымасці прадстаўленыя скажона, што можа негатыўна адбіцца на супрацоўніцтве Беларусі і UNESCO.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

былі канфіскаваныя ў 1864 годзе, калі Нарбута аддалі пад суд «за дрэннае выхаванне дзяцей».

## Сям'я

Ажаніўся Тэадор Нарбут позна – маючы ўжо 56 гадоў. Жонкай яго стала Крысціна Садоўская, 1803 году нараджэння, якая даўно вяла ў Шаўрах гаспадарку. Усе іх дзеці, народжаныя да шлюбу, набывалі такім чынам «легітымнасць». Усіх дзяцей Тэадор і Крысціна мелі дзевяць. Трое першых – Міхал, Отан і Альдона – памерлі ў дзяцінстве. З астатніх Людвік, Баляслаў і дачка Тэадора ўдзельнічалі ў паўстанні. Людвік вядомы ў гісторыі як начальнік лідскага паўстанцкага аддзелу. Ён загінуў у баі з ротай капітана Цімафеева Паўлаўскага палка каля Дубічаў. Людвік Нарбут стаў адной з першых ахвяраў бою, атрымаўшы спачатку лёгкае раненне, а ўслед за ім смяротнае. Цімафееў дазволіў пахаваць каля Дубіцкага касцёла ўсіх паўстанцаў, што загінулі ў гэтым баі. Але генерал-губернатар Мураўёў праз чатыры месяцы загадаў зраўняць гэтыя могілкі з зямлёю. Толькі ў 1933 годзе тут быў пастаўлены помнік.

Рэшткі Лідскага атрада ўзначаліў брат Людвіка і ягоны ад'ютант Баляслаў Нарбут. Ён вывеў аддзел у Гарадзенскую пушчу. Крыху пазней схоплены Баляслаў быў у Гродне асуджаны да расстрэлу, але гэтае пакаранне замянілі ссылкай у Краснаярск, адкуль ён вярнуўся на радзіму па амністыі на пачатку 1880-х гадоў. У той бітве была з братамі і дачка Нарбута Тэадора. Ссылка чакала і яе, але маці здолела арганізаваць ёй уцёкі ў Парыж. Тут яна пражыла амаль усё жыццё. Тэадора вярнулася ў родны край у 1914 годзе, свой век дажывала ў прытулку для састарэлых у Кракаве, дзе памерла ў 1928 годзе.

Старога бацьку за такое выхаванне сыноў і дачкі ўзялі ў Вільню, дзе суд прыгаварыў яго да ссылкі ў Сібір, але прысуд не здолелі выканаць з-за дрэннага здароўя асуджанага. Было Тэадору Нарбуту 79 гадоў. 26 лістапада 1864 году ён сканаў. Пахавалі яго не на радзіме ў Шаўрах, а ў недалёкай Начы, на могілках ля касцёла.

Яго жонку, якой было 60 гадоў, асудзілі на высылку ў Пензенскую губерню, адкуль яна вярнулася на радзіму праз дваццаць гадоў. Яна памерла ў 1899 годзе і пахавана ў Шаўрах побач з сынам Баляславам. Самы малодшы сын Нарбутаў Станіслаў, народжаны ў 1853 годзе, працаваў лекарам у Браславе, там ён і пахаваны.

Прыняла пакуты сям'я Тэадора Осцік-Нарбута, рассыпалася па свеце, толькі душа маці пільнуе мясціну, дзе дзеці, муж, яна сама былі шчаслівыя.



Фота У. Шлапака

Памятны камень у гонар Нарбутаў – удзельнікаў паўстання 1863 году

НАГОДА ЎСПОМНІЦЬ

### 12 ліпеня

**1682.** Памёр французскі астраном Жан Пікар, які першы дакладна змерыў дугу мерыдыяна, вызначыўшы такім чынам памер Зямлі. Тады ж ён зрабіў выснову, што наша планета не мае дакладнай формы шару.

**1917.** У часе Першай сусветнай вайны ў Іпрскай бітве германская армія ўпершыню выкарыстала ў якасці атрутнага рэчыва газ, які атрымаў назву іпрыт.

**1942.** У мэтах эканоміі металаў для ваенных патрэбаў урад ЗША забараняе выраб металічнай мэблі.

**1962.** У Лондане даў свой першы канцэрт гурт *The Rolling Stones.*

**1997.** Парэшткі лацінаамерыканскага рэвалюцыянера Эрнеста Чэ Гевары перавозяцца на Кубу.

### 13 ліпеня

**1897.** Італьянец Гульельма Марконі атрымлівае патэнт на радыё.

**1942.** Нарадзіўся амерыканскі акцёр Гарысан Форд, які стаў вядомым пасля фільму «Зорныя войны» і серыялу пра Індыяну Джонса. Калі б у Форда нічога не атрымалася ў кіно, ён збіраўся рабіць цесляром. Жонка Форда – сцэнарыстка. За яе сцэнарый фільму Марціна Скарсэзе «Кундун» пра жыццё далай-ламы Гарысан Форд фігуруе ў спісе з 50 чалавек, якім кітайскія ўлады забараняюць уезд у Тыбет.

### 14 ліпеня

**1867.** Альфрэд Нобель у адным з брытанскіх кар'ераў упершыню дэманструе дынаміт.

**1902.** У Венецыі раптоўна абрынаецца самае старое ў Італіі гатычнае збудаванне – званіца на плошчы Святога Марка.

**1927.** У Вене прайшла шматтысячная дэманстрацыя пратэсту супраць апраўдальнага выраку фашыстам, якія забілі некалькі чалавек падчас рабочага мітынгу ў аўстрыйскай правінцыі. Паліцыя адкрыла па людзях агонь. У адказ працоўныя пачалі штурмаваць пастарункі і спалілі Міністэрства юстыцыі. У вулічных баях загінула сто чалавек і паўтары тысячы атрымалі раненні.

**1952.** Амерыканская кампанія «Джэнерал Мотарс» абвясціла, што пачынае ўсталёўваць у машынах першыя ў свеце кандыцыянеры.

**1967.** У Стакгольме прымаецца Канвенцыя аб заснаванні Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці.

### 15 ліпеня

**1782.** Памёр італьянскі оперны спявак Карла Фарынелі, які быў кастратам. Гэтае імя стала асабліва вядомым пасля аднайменнага фільму. Праўда, там не ўдалося як след перадаць голас, які быў у Фарынелі-кастрата. Не дапамагло і зліццё ў адно двух галасоў – сапрана і контртэнару – з адмысловай камп'ютэрнай апрацоўкай.

**1852.** Леў Талстой адправіў з Каўказу Мікалаю Някрасаву ў часопіс «Сучаснік» свой першы твор – аповесць «Дзяцінства». У суправаджальным лісце ён піша: «з нецярплівасцю чакаю вашага выраку. Ён альбо заахвоціць мяне да працягу любімых заняткаў, альбо змусіць спаліць усё пачатае».

**1952.** У ЗША забараняецца савецкі часопіс «Амерыка» і савецкія інфармацыйныя бюлетэні.

**1997.** Італьянскі мадэльер Джані Версачэ быў застрэлены на парозе ўласнага дому.

### 16 ліпеня

**622.** Пачатак распаўсюджвання ісламу: Махамед пачаў сваё падарожжа з Мекі ў Медыну.

**1857.** Памёр французскі паэт П'ер Жан дэ Беранжэ. Славу яму прынеслі сатырычныя песні з крытыкай манархіі і кліру. Паэта двойчы саджалі ў турму, пасля чаго народнай любові да яго толькі прыбаўлялася.

### 17 ліпеня

**1917.** У пляханаўскай газеце «Адзінства» публікуюцца звесткі пра тое, што Уладзімір Ленін і бальшавіцкая партыя фінансуюцца нямецкім урадам.

**1947.** У Індыйскім акіяне перакуліўся індыйскі паром «Рандас». 625 чалавек загінулі.

### 18 ліпеня

**387 да н.э.** Кельты рабуюць Рым. З тае пары дзень 18 ліпеня стаў лічыцца ў Рыме нешчаслівым.

**1927.** Прагучаў першы ў свеце радыёрэпартаж пра футбол. Гулялі англійскія каманды «Ліверпуль» і «Шэфілд Юнайтэд».

**1947.** У берлінскую турму Шпандаў прывозяць сямёх галоўных нямецкіх фашыстаў. Пасля смерці ў 1987 годзе апошняга з іх – Рудольфа Геса – яе разбурылі.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

## Астралагічны прагноз

### ад Веранікі Кудраўцавай на 12–18 ліпеня

*Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне будуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час народзінаў чалавека.*



**АВЕН.** У пятніцу някепска ідуць дзелавыя перамовы і вырашэнне гаспадарчых пытанняў. У панядзелак не варта займацца сацыяльна значнымі пытаннямі, даймаць уплывовых асобаў сваімі праблемамі. У другой палове дня складаюцца больш спрыяльныя ўмовы, каб здабыць у змаганні свой закон, адстаяць сваю праўду.



**ЦЯЛЕЦ.** Пятніца – дзень асветы, у тым ліку і ў прыватных, інтымных пытаннях. Можна падацца ў невялікую рамантычную экскурсію. У панядзелак звярніце ўвагу на знешні выгляд і галантныя манеры, якія неабходна захоўваць, каб выклікаць прыхільнасць да сябе ў партнёраў. Гэта спрыяльны дзень, каб заняцца пошукам свайго стылю, развіццём густу.



**БЛІЗНЯТЫ.** Ёсць сэнс займацца карпатлівай працаю ў пятніцу, абавязкова трацьце энергію. Прычым, найверагодней, давядзецца займацца старымі справамі. Добра выдзеліць сабе гэты час пад гаспадарчы ці аздараўленчы перыяд. На самым пачатку тыдня можна цешыцца камфортнымі асабістымі дачыненнямі.



**РАК.** У нядзелю дорыцца раскрыццё таямніцаў, яснабачанне, духоўная дапамога, рэзкія творчыя перамены, а таксама раскрываюцца здольнасці да лекавання.



**ЛЕЎ.** Не прапусціце ў панядзелак шанец выпадковага заробку ці падарунку; ваш творчы настрой атрымае імпульс. У сярэдзіне тыдня добра пазбаўляцца старых рэчаў. А таксама трэба больш асцярожна паводзіць сябе на прыродзе, бо ёсць небяспека атрутных укусаў, сачыць за своечасовым адключэннем газавых прыбораў і душэўным станам блізкіх.



**ПАННА.** Пятніца «заклікае» заняцца гаспадарчымі справамі, прывесці ў парадак дакументы, бухгалтарскія паперы, разабрацца з інфармацыяй. Плённа праходзіць у выходныя дні аналітычная і навуковая праца, рамонт тэхнікі, прагназаванне будучыні, падрыхтоўка да паспяховых дзелавых перамоваў на самым пачатку тыдня.



**ШАЛІ.** У панядзелак у вашым доме ці офісе мяркуецца свята, паспейце атрымаць нават дробную асалоду. Пачынаючы з серады, вы не схільныя да чысціні, парадку, узнікаюць прыдзіркі па драбніцах, агульная незадаволенасць як у духоўна-асабістым жыцці, так і ў вытворчым. Не выключаны дзіўныя непаладкі ў арганізме, варта шукаць карані захворванняў, а не лячыць сімптомы.



**СКАРПІЁН.** У панядзелак рэкамендуецца патрэніравацца ў аратарскім майстэрстве, падабраць для пераконвання такія словы, каб вам не маглі адмовіць, высокі шанец выпадковага поспеху – рызыкуйце. У сярэдзіне тыдня павышаецца верагоднасць сумнага настрою.



**СТРАЛЕЦ.** Падобна, што сужонак і калегі ў пятніцу паспяхова займаюцца ўласнымі праблемамі, таму лепей настроіцца на звычайную працу. Затое ў панядзелак справы не проста ідуць, а бягуць па вашым загадзе. У другой палове тыдня пастарайцеся не корпацца ў сваіх або чужых комплексах і няўдачах.



**КАЗЯРОГ.** У панядзелак прыходзіць час паспяховай творчай дзейнасці, пашырэння эмацыйных далягляд і здабыцця цікавага вопыту сумоўя. Добра таксама заключаць саюзы, весці перамовы пра вяселле. Верагодна ўзвышэнне або ўзнагарода ў жыцці ў тых людзей, якія гэта сапраўды заслужылі.



**ВАДАЛІЎ.** У пятніцу атрымліваюць імпульс да творчасці ювелірныя майстры, можна ў адзін дзень выканаць самыя нудныя працы. Вельмі карысным можа аказацца візіт да доктара. З серады з'яўляецца магчымасць вярнуцца да важных для вас людзей або справаў і правесці працу над памылкамі.



**РЫБЫ.** Субота – сапраўдны дзень сям'і, добра займацца адукацыяй і самаадукацыяй, знаёміць сваіх дзяцей з мінулым іхніх продкаў, нацыянальнымі традыцыямі, маральнымі прынцыпамі. Гаспадаркаю і здзелкамі лепей заняцца ў нядзелю. Тыдзень пачынаецца з прыемных вестак, звязаных з перспектывамі паездак, новых магчымасцяў.

### НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




# Кампанія для Мірскага замку

***На гэтым тыдні беларусам уручаны сертыфікат аб прыналежнасці нашага Мірскага замку да Спісу сусветнай спадчыны. Фігураванне гэтага помніка беларускай архітэктуры ў згаданым рэестры – без перабольшвання факт нацыянальнага гонару. Таму не дзіўна, што мы так часта хвалімся гэтым і кажам, як гэта пачэсна.***



Фота У.Шлапака

Між тым цікава ведаць, што наогул такое Спіс сусветнай спадчыны, якія яшчэ аб'екты занесеныя ў яго разам з нашым Мірскім замкам. Спіс гэты быў створаны ў 1972 годзе згодна з Канвенцыяй па абароне сусветнай культуры і прыроднай спадчыны і з тае пары на працягу ўжо 30 гадоў увесь час папаўняецца. На сёння ў ім каля сямі соцень пазіцыяў. Гэта помнікі культуры і прыроды з болей як сотні краінаў – ад статуі Свабоды да Галапагоскіх выспаў, ад Калізея да Вялікай кітайскай сцяны. Трэба сказаць, кампанія ў Мірскага замку як мае быць! Каб пералічыць славутасці са Спісу сусветнай спадчыны, раскіданыя па ўсіх кантынентах, сапраўды не хопіць газетнай плошчы.

У нашых суседзяў прадстаўніцтва ў Спісе сусветнай спадчыны большае, чым у нас. Для прыкладу назавем па адным аб'екце ад Расіі і Польшчы. Гэта Казанскі крэмль і забудова Старога гораду ў Торуні.

Разам з Спісам сусветнай спадчыны існуе Спіс сусветнай спадчыны, якая апынулася пад пагрозай. З аднаго спісу ў другі пераводзяцца аб'екты, стан якіх прыкметна і небяспечна пагоршыўся. Дарэчы, зусім нядаўна шэраг беларускіх дзеячаў звярнуўся да *UNESCO* з прапановаю перагледзець статус Белавежскай пушчы, якая моцна пацярпела ў выніку злачынных высечак.

Кожная краіна мае напагатове некалькі заявак на ўключэнне тых ці іншых культурных і прыродных помнікаў у Спіс сусветнай спадчыны і намагаецца лабіраваць гэтае пытанне ў *UNESCO*. Беларусь, па ўсім відаць, гэтых захадаў рабіць не збіраецца. Прынамсі, афіцыйна ніхто ні пра што не кажа. Адно што ходзяць чуткі, быццам супольна з палякамі мы маем намер прасіць уключыць у Спіс сусветнай спадчыны Аўгустоўскі канал.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**



**Пізанская падаючая вежа** дзякуючы канструктыўнай хібе вылучаецца сярод мноства іншых вежаў і ўваходзіць у Спіс сусветнай спадчыны. Яна пабудавана напрыканцы 12-га стагоддзя, мае ў вышыню 55 метраў і адхіленне ад вертыкальнай восі 4,6 метра. І гэтае адхіленне будзе павялічвацца. Кожны год з'яўляюцца чуткі, што Пізанская вежа вось-вось абрынецца. Цікавы факт, звязаны з «пізанкай»: ураджэнец Пізы Галілео Галілей выкарыстоўваў падаючую вежу для сваіх вопытаў. З верхняга яе паверху ён кідаў розныя прадметы, каб даказаць, што хуткасць падзення не залежыць ад вагі цела, якое падае.



**Піраміда Хеопса,** выкладзеная з двух з паловай мільёнаў вапняковых блокаў па дзве тоны кожны, стаіць на краі пустыні на захад ад Нілу. Яе вышыня – 138 м, даўжыня аднаго боку – 227,5 м. Ніхто дакладна не ведае, чаму была пабудаваная гэтая унікальнай канструкцыі піраміда. Мажліва, гэта быў склеп для фараона. Зусім побач з пірамідай Хеопса – за 200 метраў – стаяць дзве меншыя піраміды: Хефрэна і Мікерына.



**Парфенон** – афінскі храм, узведзены ў сярэдзіне 5-га стагоддзя да н.э. на пагорку Акропаль у гонар заступніцы гораду Афіны Парфенас. Архітэктурнае аблічча Парфенона часта мянялася. І не дзіва, бо гэтае збудаванне паспела пабыць і праваслаўным храмам, і каталіцкім, і мячэтам. Парфенон нават выконваў функцыю парахавога складу.



**Вялікая кітайская сцяна** – адно з найвялікшых збудаванняў усіх часоў. Яе будавалі пачынаючы з 220 году да н.э. за імператарам Цінь Шыхуанды. На грандыёзнай будоўлі было задзейнічана прыкладна 300 тысяч чалавек. Многія з іх у часе будаўніцтва памерлі і былі замураваныя ў сцяне. Нездарма яе называлі самымі доўгімі могілкамі свету і Сцяной слёз. Вялікая кітайская сцяна ўзводзілася як абарончае ўмацаванне супраць набегаў качавых манголаў і як сімвал велічы імператара. На простай лініі адлегласць паміж двума канцавымі пунктамі сцяны складае 2 450 км, а калі ісці па ўсіх выгінах і адгалінаваннях – набярэцца 6 000 км; шырыня сцяны – 5,5 м.



**Тадж-Махал** – сапраўдная візітоўка Індыі. Ён быў узведзены ў 17-м стагоддзі як пахавальны склеп: султан Шах-Джахан пабудаваў яго ў памяць сваёй жонкі Мумтаз-Махал. Будаўніцтва Тадж-Махала заняло 22 гады. Паверхня яго інкруставана тысячамі каштоўных камянёў, якія ўвесь час спрабуюць выбіць зладзеі. Сёе-тое скрасці з Тадж-Махалу ім ужо ўдалося: срэбныя дзверы, парапет з золата.

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА
Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая.
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі

тэл. 210-02-53, факс 210-02-54
Адрас для пошты: 220123, г.Мінск, а/с 103
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г.
Заснавальнік Зміцер Жук. г. Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1

Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА.
Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная зорка»
220073, г. Мінск, Першы Загарадны завулак, 3. Заказ № 1165
Нумар падпісаны ў друк 11/07/2002 (12:00) Наклад – 6.780